ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XX. № 155 Нью Ёрк March — Сакавік 1970 New York Vol. XX. № 155

*Шчыра вітаем з 80-годзьдзем жыцьця заслужанага грамадзкага, царкоўнага й палітычнага дзеяча, Старшыню Сэктару Рады БНР у Нью Джэрзі*

ФІРЯРЭТА РОДЗЬКУ

*ды жадаем Яму здароўя й памысьнасьці ў жыцьці ды далейшае плённае працы на беларускай ніве.*

*Сэктар Рады БНР у Нью Джэрзі.*

*Рэдакцыйная Калегія „Беларуса", далучаючыся да гэтага прывітаньня, выказвае й свае найлепшыя пажаданьні Паважанаму Юбіляру.*

# СТРАХ ПЕРАД ЭМІГРАЦЫЯЙ

Праблема беларускае эміграцыі й ейнае нацыянальна - вызвольнае дзейнасьці набірае ў савецкай прапагандзе штораз большае ўвагі й вайстрыні. Партыйныя органы не шкадуюць ані велізарных сумаў грошай, ані энэргіі, каб мабілізаваць людзей пяра, друк, радыё, мастацкую літаратуру й дзейнасьць свае замежнае агентуры на змаганьня зь беларускай эміграцыяй. Асабліва апошнім часам партыя ўзмоцніла свае намаганьні, каб заглушыць свабодны голас беларускае эміграцыі ў Вольным Сьвеце, скампрамітаваць і здэскрыдытаваць яе палітычна й маральна як у вачох эміграцыйных масаў і заходняга грамадзтва, а такжа й галоўна перад суродзічамі на бацькаўшчыне ды абясшкодзіць тым самым увесь эфэкт ейнае дзейнасьці.

Завойстраная ўвага савецкае прапаганды ў дачыненьні да эміграцыі сьветчыць пра дзьве бясспрэчныя рэчы. Першае, пра тое, што, не зважаючы на шчыльную зялезную заслону, якой Савецкі Саюз старэнна агароджвае паняволеным ім народы ад Вольнага Сьвету, голас беларускае эміграцыі рознымі каналамі — праз радыё, друк, асабістыя кантакты з падсавецкімі людзьмі, што трапляюць на Захад, усё-ж пранікае на Беларусь. Другое, што голас беларускае эміграцыі, дайшоўшы на бацькаўшчыну, трапляе на падатлівую глебу. Гэта неаднакроць пацьвердзілі й савецкія партыйныя органы.

Прыкладам, загадчык сэктару аддзелу прапаганды й агітацыі ЦК КПБ Р. Ткачук у сваім артыкуле ў партыйным органе „Зьвязьдзе" за 9 ліпеня 1968 году, выступаючы супраць аўтараў беларускіх перадачаў радыя „Свабода", хоцькі-няхоцькі сьцьвердзіў, што беларуская радыяперадачы робяць адпаведны ўплыў на тых, што іх слухаюць. Сьцьвярджаючы літаральна, што **„было-б памылкай... ня бачыць у паводзінах асобных маладых людзей такіх зьяў, якія ня ў поўнай меры адпавядаюць патрабаваньням камуністычнай ідэйнасьці і маральнасьці"**, Р. Ткачук, як ён піша ў сваім артыкуле, **„каб адгарадзіць нашых людзей ад тлятворнага ўплыву буржуазнай прапаганды"**, з узвышша свайго партыйнага становішча заклікае ў дырэктыўным парадку: **„выкарыстоўваць у гэтых мэтах усе сродкі ідэйнага ўплыву, ладзіць вечары сустрэч падрастаючага пакаленьня з вэтэранамі партыі, удзельнікамі рэвалюцыі, грамадзянскай і Айчыннай войнаў, тэарэтычныя канфэрэнцыі, тэматычныя вечары, дыспуты, паходы па месцах баявой і рэвалюцыйнай славы"**.

Калі аж гэткія мерапрыёмствы заклікала рабіць партыя ў вабароне перад ідэйнымі ўплывамі беларускае эміграцыі на моладзь, дык ясна й бясспрэчна, што ня толькі „асобныя маладыя людзі", як пісаў Р. Ткачук, „ня ў поўнай меры адпавядаюць патрабаваньням камуністычнай ідэйнасьці й маральнасьці", але гэта зьява агульная й масавая. І тут увесь сакрэт тае вялікае ўвагі партыі да эміграцыі й тых велізарных прапагандавых мерапрыёмстваў, каб абясшкодзіць уплыў тае эміграцыі на беларускае жыхарства ў БССР.

Дзеля ідэйнага змаганьня зь беларускай эміграцыяй партыя стараецца перш-наперш мабілізаваць беларускіх пісьменьнікаў і наагул людзей пяра, што, як пасьветчыла практыка, аказалася справай зусім ня лёгкай. Літаральна ніхто з выдатных і аўтарытэтных пісьменьнікаў ня стаўся прафэсійным паклёпнікам на эміграцыю й ейную дзейнасьць. За выконваньне гэтых незайдросных функцыяў ахвотна хапілася адно невялічкая групка нізкаякасных графаманаў і бяспрынцыповых партыйных папіхачоў, што ня толькі за страх, а й за сумленьне прывыклі пісаць пра ўсё, што загадваюць зьверху.

Із старэйшых пісьменьнікаў гэткім стаўся галоўна Ільля Гурскі, ведамы яшчэ із сталінскіх пагромаў паклёпнік на Янку Купалу ў 30-ых гадох, калі беларускі народны паэта, ратуючыся ад маральнага партыйнага тэрору ды пратэстуючы супраць нацыянальнага зьдзеку, прабаваў паканчыць самагубствам. Ужо па вайне ў сваім чатырохтомным рамане „Вецер веку" Ільля Гурскі задаўся мэтай ачарніць беларускі незалежніцкі рух 1917-1918 гадоў, ведзены й кіраваны органамі БНР, і за гэта ў 1967 годзе быў узнагароджаны ордэнам Леніна. У сьнежанскім нумары часапісу „Полымя" за леташні год Гурскі надрукаваў свой новы „раман-памфлет", як правільна назваў яго ён-жа сам, „Чужы хлеб", прысвечаны ўжо беларускай палітычнай эміграцыі. Галоўнымі пэрсанажамі гэтага раману-памфлету аж 42-ух ведамых беларускіх эмігрантаў у розных краёх Вольнага Сьвету. Чаго толькі не спладзіла тут фантазія гэтага пісакі, улучна з тым, што ў гэтым творы ведамыя асобы зь беларускай эміграцыі, знаходзячыся адразу па вайне ў ДП-лягеры ў Рэгэнзбургу, займаліся навет палітычнымі забойствамі „савецкіх патрыётаў" сярод эміграцыі.

Колькі год таму паклёпніцкія аповесьці супраць эміграцыі пісалі Макар Пасьлядовіч і Павал Кавалёў, які, пасьля адыходу ад галоўнага рэдактарства „Полымя" Максіма Танка ў сувязі з назначэньнем яго на становішча першага сакратара Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, быў назначаны партыяй галоўным рэдактарам гэтага часапісу. Таксама сваёй увагай абдараў ужо ня раз беларускіх эмігрантаў у сваіх творах Іван Новікаў. Апошнім часам найбольш шчодрымі ў сваіх атаках на эміграцыю, апрача згаданага Ільлі Гурскага, добра ведамы із сваіх выступленьняў у рэдагаванай ім газэцінцы для эміграцыі „Голас Радзімы" Леанід Прокша. За сваю партыйную выслужлівасьць у канцы леташняга году быў ён назначаны галоўным рэдактарам адзінае ў Беларусі літаратурнае газэты „Літаратура і Мастацтва" пасьля таго, калі з гэтага становішча быў звольнены ведамы беларускі літаратурны крытык Нічыпар Пашкевіч. Побач зь Леанідам Прокшам асабліва руплівы сяньня ў вачэрняваньні эміграцыі дырэктар Радыястанцыі „Савецкая Беларусь", што перадае выдучна для эміграцыі, А. Стук.

Згаданых нізкапробных графаманаў і ўдалося партыі змабілізаваць у якасьці сваіх галоўных пісакаў, для якіх паклёпніцтва й хлусьня сталася ўжо прафэсіяй. Праўда, пад артыкулам супраць беларускіх літаратараў у Вольным Сьвеце „Ня вам Беларусамі звацца", што зьявіўся быў напрыканцы 1966 году ў менскіх і маскоўскіх газэтах, фігуравалі прозьвішчы васьмёх выдатных і аўтарытэтных беларускіх пісьменьнікаў: Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Васіля Быкава, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі й Івана Чыгрынава. Характэрным было ўжо тое, што сярод прозьвішчаў гэтых узапраўды таленавітых пісьменьнікаў ня было прозьвішча ніводнага з гэных прафэсійных паклёпнікаў, відаць, затым, каб не аслабляць эфэкту ад гэтага выступленьня.

Асабіста заатакаваныя ў артыкуле „Ня вам Беларусамі звацца" беларускія літаратары на Захадзе ў сваім адказе на гэты артыкул, надрукаваным у „Беларусе" ў сьнежні 1966 году, выказалі цалкам абгрунтаванае перакананьне, што гэта быў артыкул не васьмёх маладых беларускіх пісьменьнікаў, а артыкул, схвабрыкаваны ў ЦК партыі ды падпісаны прозьвішчамі гэных пісьменьнікаў. Гэтае перакананьне потым пасярэдня пацьвердзілі й партыйныя прадстаўнікі, у тым ліку й сам сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч, паклікаючыся ў сваіх далейшых выступленьнях супраць эміграцыі на гэты артыкул „Ня вам Беларусамі звацца", як на голас партыйнае думкі.

У змаганьні зь беларускай эміграцыяй самым апошнім часам партыя спрабавала выкарыстаць і гістарычную навуку. У бібліятэчцы газэты „Голас Радзімы" зьявілася летась псэўданавуковая кніжыца „У сьвятле неабвержных фактаў". Ейным аўтарам, як пералічваецца ў прадмове да яе, **„загадчык катэдры гісторыі БССР Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, доктар гістарычных навукаў, прафэсар, член-карэспандэнт Акадэміі пэдагагічных навукаў СССР"** — Лаўрэн Абэцадарскі, наагул-жа ведамы хвальсыфікатар гісторыі Беларусі ў угоду партыйнае палітыкі. Галоўная мэта гэтае кніжыцы — давесьці, што цьверджаньне пра дзяржаўную незалежнасьць Беларусі ў мінуўшчыне, у эпоху Вялікага Княства Літоўскага — гэта злосная выдумка беларускіх буржуазных нацыяналістых, што апынуліся на Захадзе, як былыя **„гітлераўскія паслугачы"**, а сяньня як **„найміты амэрыканскіх і заходнягерманскіх імпэрыялістаў"**.

Цікава тое, што выданьні газэткі „Голас Радзімы", як і сама гэтая газэтка, раней ня былі даступныя падсавецкаму чытачу, а распаўсюджваліся адно сярод эміграцыі. Затое кніжыца „У сьвятле неабвержных фактаў", выдадзеная 30-цітысячным тыражом, прысьвечаная ўжо, як сказана ў прадмове да яе, ня толькі эмігрантам, а й для нутранага пашырэньня.

Лаўрэн Абэцэдарскі, ахвотна пайшоўшы напярэймы партыйным патрабаваньням, у сваім хвалшаваньні гісторыі Беларусі пасунуўся аж гэтак далёка, што ягоныя псэўданавуковыя тэзы й высновы пярэчаць навуковым цьверджаньням сумленных савецкіх гісторыкаў. Не зважаючы на гэта, Радыё Менск у сваёй перадачы 14 лютага паведаміла, што гэтая „цікавая работа" акадэміка Лаўрэна Абэцадарскага **„стане добрым дапаможнікам для выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў гісторыі, студэнтаў"**.

У гэтым артыкуле мы падалі адно невялічкую частку канкрэтных фактаў дзеля ілюстрацыі партыйнае боязі перад нацыянальнай дзейнасьцяй беларускае палітычнае эміграцыі, боязі за душы маладога беларускага пакаленьня, да якога гэтая дзейнасьць даходзіць і прыносіць багаты плён. Дзейнасьць гэтая пакаэвае на шаленую русыфікацыю Беларусі маскоўскім камунізмам, умацоўвае нашую моладзь на бацькаўшчыне ў нацыянальным духу, прышчэпліваве ёй вернасьць сваім нацыянальным ідэалам. Не дарма-ж згаданы сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч у сваім дакладзе на Рэспубліканскай нарадзе ідэалягічных работнікаў у студзені сёлета ў Менску быў змушаны з горыччу сьцьвердзіць, што сяньня **„адна з найбольш агульных небясьпекаў тоіцца ў вяжыўленьні нацыяналізму"**.

Сьведамасьць таго, што нашая нацыянальная дзейнасьць пранікае на Бацькаўшчыну й робіць там вялікую работу, павінна ўсім нам стацца яшчэ большым натхненьнем да новых высілкаў у вялікай і сьвятой справе вызваленьня. **Алесь Крыга**

## ЧЫСТКА Ў ЧАСАПІСЕ „НОВЫ МІР"

Як падала заходняя прэса, даўгагадовы рэдактар найбольш лібэральнага й нязвычайна аўтарытэтнага савецкага літаратурнага часапісу „Новый мир" паэта Аляксандар Твардоўскі быў змушаны адмовіцца ад свайго становішча ў гэтым часапісе. Рэзыгнацыя Аляксандра Твардоўскага наступіла ў выніку праведзенае партыйнымі органамі чысткі: звальненьня з рэдактарскага пэрсаналу часапісу чатырох адказных лібэральна настроеных супрацоўнікаў ды замены іх людзьмі, сьлепа адданымі партыі.

Аляксандар Твардоўскі ахвотна зьмяшчаў у рэдагаваным ім часапісе творы іншых пісьменьнікаў з крытычнымі выказваньнямі пра савецкую рэчаіснасьць і наагул быў прыхільнікам свабоды творчасьці й вызваленьня яе ад партыйнага дагматызму. Ён першы адчыніў дзьверы для літаратурнае папулярнасьці й славы ведамага, сяньня таксама перасьледаванага, савецкага пісьменьніка Аляксандра Салжаніцына, надрукаваўшы ў часапісе „Новый мир" у 1962 годзе ягоную антысталінскую аповесьць „Адзін дзень Івана Дзянісавіча".

Аляксандар Твардоўскі, які, да рэчы, паходзіць зь Беларусі, із Смаленшчыны, мае немалыя заслугі й перад беларускай літаратурай. Надрукаваныя ў часапісе „Новый мир" у расейскім перакладзе аповесьці беларускага пісьменьніка Васіля Быкава „Мёртвым не баліць", „Праклятая вышыня", „Круглянскі мост" і іншыя, сталіся шырака ведамымі ня толькі савецкаму небеларускаму чытачу, а й на Захадзе.

Добра паінфармаваны амэрыканскі тыднёвік „Ньюс Вік" прыўёў выказваньне аднаго з маскоўскіх пісьменьнікаў, што рэдагаваны Твардоўскім „Новый мир" абнадзейваў думаючых людзей у Савецкім Саюзе, умацоўваў іх у перакананьні, што ня ўсё яшчэ страчанае. Ад даўжэйшага часу ня было йншэ гэткага пісьмістычнага настрою сярод пісьменьніцкае грамадзкасьці ў СССР, як сяньня ў сувязі з выпадкамі ў рэдакцыі часапісу „Новый мир".

Іншы аўтарытэтны амэрыканскі тыднёвік „Тайм" у нумары за 2 сакавіка ўважае, што адыход Аляксандра Твардоўскага ад рэдактарства часапісу „Новый мир" абазначае канец пасьлясталінскае эры. Беспасярэдьнім вынікам таго, — уважае „Тайм", — што „Новый мир" перастане цяпер быць органам незалежных і крытычна думаючых пісьменьнікаў, будзе ўзрастаньне колькасьці літаратурных твораў, што распаўсюджваюцца ў размножаных рукапісах з рук у рукі, творачы г. зв. „самиздат" падпольнага „друку".

У кажным выпадку, вымушаны адыход Аляксандра Твардоўскага ад рэдактарства часапісу „Новый мир" і перабраньне гэтага часапісу ў партыйныя рукі — адзін з чарговых этапаў завайстрэньня партыйнага наступу ў Савецкім Саюзе.

Незадоўга перад гэтым падобны выпадак меў месца й на Беларусі. У вадзінай на Беларусі аўтарытэтнай і паважнай літаратурнай газэце „Літаратура і Мастацтва", што выходзіць пакульшто (да красавіка сёлета) двойчы на тыдзень (ад красавіка мае быць тыднёвікам, але пабольшанага лістажу), у нумары 69 за 2 верасьня 1969 г. раптам зьнікла прозьвішча ведамага беларускага літаратурнага крытыка Нічыпара Пашкевіча, як галоўнага рэдактара. А ў нумары 84 „Літаратуры і Мастацтва" за 24 кастрычніка паявілася прозьвішча новага галоўнага рэдактара Леаніда Прокшы — публіцыстага й пісьменьніка нізкапробнае якасьці, затое няпераборлівага паклёпніка на г. зв. беларускіх буржуазных нацыяналістых.

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ І МАСТАЦТВА

У суботу 21 лютага ў памешканьні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку адбылося чарговае навуковае паседжаньне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. На паседжаньні віцэ-старшыня Інстытуту праф. Антон Адамовіч выступіў з дакладам „Нью Ёрк — Лёндан — Мюнхэн", у якім падзяліўся сваімі назіраньнямі і ўражаньнямі з падарожжа ў Эўропу, дзе 5-7 студзеня ў Лёндане прыняў удзел у навуковай канфэрэнцыі мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР, а так-жа меў сустрэчы зь лёнданскай беларускай калёніяй — сябрамі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Англа-Беларускага Таварыства, а таксама наведаў беларускіх а. а. Марыянаў ды пазнаёміўся із заснаваньнямі імі Беларускім музэем і Беларускай Бібліятэкай у Лёндане.

Навуковая канфэрэнцыя Інстытуту Вывучэньня СССР была прысьвечаная пытаньням савецкае цэнзуры ў розных ейных формах. Канфэрэнцыя была асабліва цікавая й каштоўная тым, што дакладчыкамі на ёй былі перабежчыкі із СССР, што мелі змогу падаць свае аўтэнтычныя спасьцярогі зь дзейнасьці савецкае цэнзуры. Асабліва цікавым быў даклад найсьвяжэйшага перабежчыка із СССР пісьменьніка Анатоля Кузьняцова пра г. зв. нутраную цэнзуру ў СССР, калі пісьменьнік, каб прапхнуць свой твор у друк, спачатку змушаны цэнзураваць яго сам, адпаведна зьмяняючы й скарочваючы яго перад тым, як зоймецца ягоным творам афіцыйная цэнзура.

Праф. Ант. Адамовіч шырака паінфармаваў пра беларускую навуковую й культурную дзейнасьць беларускіх а. а. Марыянаў у Лёндане, якія вытрывала й сыстэматычна выконваюць вельмі важную нацыянальную работу.

Зь Лёндану праф. Ант. Адамовіч заяжджаў (дакладней, прыляітаў) на колькі дзён у Мюнхэн, дзе сустрэўся й меў гутаркі зь мюнхэнскімі Беларусамі, што працуюць у Радыё „Свабода" й Інстытуце Вывучэньня СССР.

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

**Арганізацыя Беларуска - Амэрыканскае Моладзі запрашае ўсіх сваіх цяперашніх і былых сяброў ды беларускае грамадзтва на**

**20-ЦІГОДЗЬДЗЕ ЗБМА**

**якое адбудзецца ў беларускім грамадзкім цэнтры Полацак у Клівлендзе ў канцатыдні 4 ліпеня 1970 г.**

**УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 52-ІХ УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ**

**БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

**АКТАМ 25 САКАВІКА 1918**

**АДБУДЗЕЦЦА Ў НЬЮ ЁРКУ Ў НЯДЗЕЛЮ 22 САКАВІКА 1970**

У ПРАГРАМЕ

1. **10-ая гадз. раніцы: Урачыстая Божая Служба** ў Катадральным Саборы БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага (401 Атлянтык эвэню ў Брукліне).
2. **2:00 гадз. папаўдні: Урачыстая Акадэмія,** у часе якой будуць прамаўляць кангрэсмэны й прадстаўнікі іншанацыянальных і беларускіх арганізацыяў, а таксама будзе багатая мастацкая праграма.

АКАДЭМІЯ АДБУДЗЕЦЦА Ў ЗАЛІ
BILTMORE HOTEL (Music Room)
Madison Avenue & 43rd Street, New York, N. Y. 10017

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

„БЕЛАРУС" —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

# „РАСПАКАВАЛІСЯ"?

У першай палавіне 1950-х гадоў на балонах „Бацькаўшчыны" вялася даволі драматычная дыскусія: „Распакоўвацца ці не распакоўвацца?" Тады йшчэ тлелі надзеі й палымнела жаданьне вярнуцца дамоў. Але прайшоў першы дзесятак гадоў, прайшоў другі, мінае трэйці. Падарожныя куфры й куфэркі вырасьлі ў хаты з гаражамі, падлеткі — у мужчыны, бацькі — у дзядоў. Адбываецца ўсьцяж працэс, пра які можна было-б сказаць словамі паэты:

Абрастаем даўгамі, хвастамі.
Абрастаем, як бераг кустамі.
„Дзе чужое, дзе наша? — пытаем. —
Дзе расьцём, а дзе абрастаем?"

Калі няўмольная рэчаіснасьць нас ня толькі распакавала, але й перапакавала, ды ўпакавала, пытаньне „распакоўвацца ці не распакоўвацца?" — у роўніцы псыхалягічнай — застаецца гэткае-ж актуальнае, як і гэнымі пяцьдзесятымі гадамі.

Аглядаючы цяпер свае новыя куфры, ці мы заглядаем таксама і ў сваю сьведамасьць? Чым яна напоўненая? Ці мы яе праветрываем, папаўняем усьведамленьнем новых фактаў з жыцьця ў Беларусі? Бо-ж у цэнтры самога азначэньня палітычнае эміграцыі ляжыць лучнасьць з рэчаіснасьцяй на бацькаўшчыне.

Найгалаўнейшае заданьне кажнае палітычнае эміграцыі, у тым ліку й нас, — ведаць сваіх ідэялягічных ворагаў. У нашым выпадку гэта значыць быць у неразрыўным кантакце зь беларускай савецкай рэчаіснасьцяй, хоць-бы ў ейных самых агульных выявах.Канкрэтна: чытаць прынамся галоўныя пэрыядычныя выданьні БССР (хоць што-небудзь з часапісаў „Полымя" ці „Маладосьць" або газэтаў „Літаратура і мастацтва", „Зьвязда" ды інш.). Мы маем і юрыдычныя і грашовыя магчымасьці падпісвацца на беларускія савецкія выданьні. Засьцярогі, што ў гэных выданьнях поўна хлусьні — праўдзівыя адно да пэўнае меры. Хлусьні ў савецкім друку, пэўна-ж, маса. Але трэба ведаць, што на балоце савецкае прапаганды знаходзяцца й кветкі праўды. Культываваць здольнасьць адрозьніваць адно ад другога ды адначасна мець магчымасьць бачыць рэчаіснасьць можна толькі ў кантакце зь беларускімі савецкімі выданьнямі. Сяму-таму трэ было-б адкінуць традыцыйны страх (ці ляноту?) дакранацца да выданьня, прапушчанага празь ідэялягічна варожую цэнзуру. Рэальнасьць кажнага змаганьня гэткая, што яго ўдала можна весьці адно тады, калі бачыш (ведаеш і разумееш) супраціўніка, каб не нагадваць сабою баксёра на рынгу з завязанымі вачыма.

Хто перастае чытаць, перастае думаць. Найбольш пашыраная немач палітычнага эміграната — ягоная заскарузласьць у старых фактах, хоць і праўдзівых, але больш не актуальных. Палітычны розум эміграцыі ня можа дыхаць і жыць бяз доступу сьвежых фактаў з бацькаўшчыны. Найвайстрэйшая прабойная сіла кажнае палітычнае эміграцыі, калі яна бесьперапынна апэруе сьвежымі фактамі сучаснасьці.

Восемдзесят гадоў таму Францішак Багушэвіч, гледзячы на сваіх суродзічаў, над якімі павісла была пагроза нацыянальнае сьмерці, перасьцерагаў: „Не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі". Парафразуючы яго сяньня, за краем сьвету ад роднае зямлі, нашай палітычнай эміграцыі трэба сказаць: Пілнуйма вестак нашых беларускіх, каб ня ўмерлі.

# БРАТЫ ЛУЦКЕВІЧЫ Й МЫ

## 3. "...ВЫ З-ЗА МОРА ГЛЯДЗЕЛІ НА ЯГОНЫЯ МУКІ..."

Браты Луцкевічы, як і іхны вялікі прашчур доктар Францішак Скарына, разумелі, што найпэўнейшыя сьляды гісторыі, сьляды пачуцьцяў і дзеі, кладуцца на кволых балонках друку. Канчаючы выданьне „Нашае Нівы" й „Гоману", кажны з братоў Луцкевічаў мог спакойна й горда паўтарыць за старарымскім паэтам Гарацыем: "Exegi monumentum aere perennius" („Я помнік збудаваў мацнейшы бронзы")

На прыкладзе жыцьця й дзейнасьці братоў Луцкевічаў мы бачым ня толькі тое, што ў нацыянальным адраджэньні, у нацыянальным вызваленьні, мала духовага бунту, бунту пачуцьцяў, — трэба, каб быў бунт арганізацыйны, бунт палітычны, бунт дзеі; мы бачым таксама, што цыкль гістарычнага поступу, цыкль нацыянальнай дзейнасьці зачыняецца адно тады, калі ўсе асноўныя факты й аспэкты грамадзкага высілку й быту трывала зафіксаваныя ў друку — для пашырэньня іх сярод сучасьнікаў, для перадаваньня іх нашчадкам.

У наш ня толькі тэрмаядзерны, але й папяровы век, мы павінны дацэньваць моц тоненькае й кволае паперы, дацэньваць прабойную сілу друкаванага радка, памятаючы старую мудрасьць: што напісана пяром, ня высечаш тапаром. Дый наадварот, трэба сказаць: чаго не запішаш пяром, ня ўсячэш і тапаром. Ілюстрацыя пад бокам, хай сабе маленькая, але вымоўная: у вапошнім, 150-ым нумары „Беларуса", у вартыкуле пра 15-цігодзьдзе парахвіі БАПЦ ў Тароньце зь бездапаможнасьцяй ужо сьцьвярджаецца: „Цяжка ўстанавіць дакладную дату выбару часовае парахвіяльнае рады й дзень першае багаслужбы ў Таронта". Але-ж, цяжка! Цяжка ўстанавіць шмат чаго прынцыпова важнага ў нашай грамадзка-гістарычнай гаспадарцы апошніх дзесяцігодзьдзяў — і прозьвішчаў і фактаў: бо не запісалі пяром... Затое як лёгка перараканацца, гледзячы на гэта, у нязвычайна важнай ролі, якую ўсьцяж выконвае наш ужо небагаты, нажаль, пэрыядычны друк, у нязвычайна вялікай заслузе тых, хто гэты друк трымае пры жыцьці, хто яго падтрымлівае.

Мы цяпер сьветкамі таго, як партыйныя цемнатворцы на бацькаўшчыне, спадкаёмцы бясслаўнае чарнасоценнае неталерантнасьці, намагаюцца выразаць зь беларускае гісторыі нажом цэнзуры нацыянальны зьмест нашаніўства. Але дарэмныя іхныя намаганьні. З балонаў „Нашае Нівы", з друкаваных радкоў яе, праз загарадкі й запруды партыйных інквізытараў, як прамяні праз турэмныя краты, бязупынна прасочваецца да народнае сьведамасьці „шмат весьцяў дзіўных з былых год" ды будзяць у народзе дух гордасьці й нацыянальнае годнасьці. Нож цэнзараў ня ў змозе перарэзаць гістарычнае лучнасьці пакаленьняў аднае нацыі. Маладыя беларускія дасьледнікі на бацькаўшчыне, не зважаючы на партыйнае асуджэньне „Нашае Нівы", як буржуазна-нацыяналістычнае газэты, што раз часьцей зварачваюцца да яе, як да адзінае незаменнае крыніцы фактаў беларускае гісторыі й нацыянальнага самапазнаньня.

Высілак братоў Луцкевічаў ажывае ў новых пакаленьнях, у дотыку патрыятычных сэрцаў да гістарычнае спадчыны нашаніўцаў. Лучнасьці дзяцей аднаго народу не павінна рэзаць ні часовая, ні геаграфічная воддаль. Пра геаграфічную воддаль даводзіцца гаварыць асабліва нам сяньня, згадваючы тут, на другім баку акіяну памяць тых, што больш за паўстагодзьдзе таму гукалі да братоў за морам, просячы дапамогі для свайго паняволенага народу.

У 1916 годзе, у часе Першае сусьветнае вайны, заходняя частка Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй. Браты Луцкевічы, жыўшы тады ў Вільні, павялі грамадзка-нацыянальную дзейнасьць і ў новых палітычных абставінах. Ад лютага 1916 году, дзякуючы іхным стараньням, у Вільні двойчы на тыдзень выходзіла, як прадаўжэньне „Нашае Нівы", газэта „Гоман". Антон Луцкевіч і надалей галоўную ўвагу аддаваў газэце, Іван займаўся арганізацыйнай і рэпрэзэнтацыйна-палітычнай дзейнасьцяй. Прадстаўляў ён Беларусаў у Штакгольме на зьезьдзе міжнароднага саюзу „Лігі інародцаў Расеі". У вадозьве, што выдала „Ліга інародцаў" у чырвені 1916 году, галоўны зварот сьціраваны быў да амэрыканскага прэзыдэнта Вільсана і да сваіх суродзічаў у Новым Сьвеце:

„Мы, жыхары Фінляндыі, Надбалтыцкага Краю й Літвы, Жыды, Украінцы, Беларусы, Магамэтане, Грузіны й паняволеныя Расеяй Палякі злучыліся, каб зьвянуцца да першага грамадзяніна найбольш магутнай дзяржавы, дзе воля становіць галаўнейшую аснову канстытуцыі. Мы зьвярнуліся да прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў і расказалі яму аб нашым цяжкім палажэньні, аб нашых непамерных муках, якія мы церпім ад Расеі, і прасілі памагчы нам...

„Мы клічам усіх нашых сваякоў на цэлым сьвеце, усіх, у каго цячэ наша кроў, усіх нашых прыяцеляў: злучайцеся з намі, баранеце нашу Лігу, зьяднайцеся ў саюз, каторы злучыў-бы ўвесь сьвет, і памажэце нам здабыць волю!"

Газэта „Гоман" за тыдзень па апублікаваньні гэтае адозвы, разумеючы, відаць, што заклік да злучэньня й просьба дапамогі ад суродзічаў за акіянам былі голасам у пустыні нацыянальнае нясьведамасьці, з жалем пісала:

„Але грамады беларускіх эмігрантаў — нічы не зьвязаных між сабою, распыленых па вялікім абшары заакіянскіх зямель — дагэтуль свайго асобнага жыцьця ў чужыне не наладзілі, не становяць там нацыянальнай сілы і памагчы нам ня здолеюць, калі ня злучацца ў вялікую грамаду, ня створаць сваёй нацыянальнай арганізацыі".

Раўнуючы да тых цяжкіх часоў, у якіх братом Луцкевічам даводзілася прakладаць першую баразну на грамадзкім дзірване, у сучаснай Амэрыцы, як бачым, беларуская справа стаіць куды шырэй і куды мацней. „Збуджаныя вамі, мы ўскросьлі, мы больш не засьнём", сьпяваем мы сяньня ў песьні. Мы можам пахваліцца шмат чым: арганізацыямі, грамадзкімі будынкамі, друкаванымі выданьнямі, уплывовымі сувязямі ў палітычным сьвеце. Не зважаючы аднак на ўсе гэтыя дасягненьні, ці лепш мо кажучы, у выніку ўсіх гэтых дасягненьняў — каб не спыняцца на дасягнутым — да нас, сяньня як ніколі, тарнуюцца словы братоў Луцкевічаў, надрукаваныя ў газэце „Гоман" 27 чырвеня 1916 году пад загалоўкам „Да братоў за морам" — словы, што гучаць, як крык іхнае душы, у імя ўсьцяж паняволенага беларускага народу:

„Арганізуйцеся й паддзяржэце многаміліённы сярмяжны ваш народ, што ў роднай зямліцы цяжэй пакутуе, чым вы пакутавалі ў чужыне! Вы цяпер — у лепшым быце — павінны ўспомніць аб бяздольных братох, павінны злучацца разам і працаваць дзеля пакінутай, далёкай Бацькаўшчыны, бо іначай родны Край адцураецца ад вас на вечныя часы й ніколі не забудзе, што ў найцяжэйшыя мінуты вы зза мора глядзелі на ягоныя мукі, на яго нядолю і не працягнулі рукі помачы!"

**Я. Запруднік**

# ІЛЬЛЯ КАПІЕВІЧ — ТВОРЦА "ГРАЖДАНКІ"

## (ДА 270-ГОДЗЬДЗЯ ПАДЗЕІ)

Пачынаючы ад 18-га стагодзьдзя, царкоўна - славянская КІРЫЛІЦА (гэтак традыцыйна называюць літары, што ўжываліся ў славянскай пісьменнасьці) была замененая, перш-наперш у сьвецкай пісьменнасьці, змадэрнізаванымі літарамі на падабенства лацінскай абэцэды, якія ў Расеі назвалі ГРАЖДАНКАЙ. Ад гэнага часу ўся літаратура праваслаўных славянскіх народаў перайшла на змадэрнізаваныя літары, захоўваючы кірыліцу адно ў літургічных тэкстах. Гэта, магчыма, ведама кажнаму. Але ня кажны ведае, што творцам мадэрнізацыі кірыліцы быў наш слаўны суродзіч ІЛЬЛЯ сын Тодара КАПІЕВІЧ на самым пачатку 18-га стагодзьдзя.

Асноваю графікі новых літараў, чым Ільля Капіевіч кіраваўся ў вадліве шрыфту для друку, была даволі даўгая традыцыя ад сярэдзіны 17-га стагодзьдзя ў Вялікім Княстве Літоўскім гэтак званага БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМА. Яно йнакш называлася ЛІТОЎСКІМ ПІСЬМОМ у Маскоўшчыне, паколькі афіцыйным імём Беларусі ў гэны час было — ЛІТВА.

Рукапісныя дакумэнты гэнага часу ў Вялікім Княстве Літоўскім пісаліся пабеларуску ды закругленымі літарамі на падабенства лацінскіх. Дакумэнты гэныя перакладаліся ў Маскоўшчыне ў гэтак званую „рускую" (расейскую) мову ды перадаваліся традыцыйнымі „рускімі" кірылічнымі літарамі. Яны ў васноўным маюць зацемку „Список с листа с белорусского (у некаторых дакумэнтах — „литовского") письма".

Прыпадабненьне старой кірыліцы да літараў лацінскай абэцэды, побач частковага пераходу ў нашай краіне зусім на ЛАЦІНКУ (у маскоўскіх перакладах гэткія дакумэнты названыя „польским письмом"), мела за сваю прычыну высілкі нашага народу адгарадзіцца ад Расеі і ў культурных дачыненьнях. Працэс гэты разьвіваўся так, што ў канцы 17-га стагодзьдзя выдатныя карты й гравюры, адносячыся да ЛІТВЫ (Беларусі), выяўляюць графіку літараў, якія зусім падобныя да літараў г. зв. „гражданскага" друку пачатку 18-га стг. Друк гэты якраз быў запачаткаваны нашым суродзічам Ільлём Капіевічам. Таму якраз першыя друкі Капіевіча атрымалі назоў „беларускага" або „літоўскага" друку, а апрабаваныя царом Пятром І-ым, былі прынятыя ў Расеі пад назовам „гражданскага пісьма".

ІЛЬЛЯ КАПІЕВІЧ — шляхціч зь Меншчыны ды наш суродзіч Беларус праваслаўнага веравызнаньня. Ён вучыўся ў Магілеўскай беларускай праваслаўнай акадэміі, а пасьля прадаўжаў сваю навуку ў Амстэрдаме ў Галяндыі, дзе перайшоў на пратэстанства. Быў навет выбраны пастырам духоўнае асацыяцыі.

Апрача роднай беларускай мовы, ён поўнасьцяй валодаў мовамі расейскай, польскай, лацінскай, францускай ды галяндзкай. Ён хутка сябе выявіў чалавекам высокай навукі на той час. Цар Пётра І-ы, у часе свае паездкі заграніцу (1698-1699) і свайго побыту ў Амстэрдаме, пазнаёміўся зь Ільлём Капіевічам ды атрымаў ад яго надзвычайнае ўражаньне. А паколькі цар у гэным часе мантаваў у Літве (Беларусі) прарасейскую партыю з кандыдатам на пасад (тады было ў Рэчыпаспалітай бескаралеўе) Аўгустам III Сасам, дык ён асабліва зацікавіўся Ільлём Капіевічам.

Дадайма, што тады выдатнейшыя правадыры незалежнасьці Літвы (Беларусі) супрацьстаўляліся намерам Пятра І-га й ставілі на францускага кандыдата Людвіка дэ Конты ды ў Варшаве на элекцыйным Сойме з польскай незалежніцкай групай утварылі канфэдэрацыю дзеля сумеснай абароны перад змовай расейскага цара із Сасамі ды Нямеччынай перад спадзяванай агрэсіяй змоўнікаў на землі Літвы й Польшчы, у якой было прадбачанае цясьнейшае задзіночаньне Літвы з Польшчаю з увядзеньнем ужо ў Літве (Беларусі) ня толькі „беларускага" („літоўскага") пісьма ці „польскага" ў выглядзе лацінкі, але падмены поўнасьцяй урадавай беларускай мовы Вялікага Княства Літоўскага мовай польскай.

Ільля Капіевіч у часе бытнасьці Пятра І-га ў Амстэрдаме цікавіўся друкарствам, якое ў Галяндыі было разьвітае ды ахапляла й кірылічныя друкі. Ён у 1699 г. выпрацаваў новыя літары згодна зь пісьменьніцкай традыцыяй свае краіны ў другой палавіне 17-га стг., а пры сустрэчы з царом Пятром І-ым, ён прадставіў яму задуманую рэформу традыцыйнага „рускага" пісьма.

Цар Пётра І-ы падтрымаў Капіевіча ў рэфарматарстве ды выдаў яму грамату „майстра кнігадрукаваньня", заахвочваючы да друкаваньня кніжак новым шрыфтам. Ільля Капіевіч тады навязаў кантакт з амстэрдамскім друкаром Тэсынгам. У ягонай друкарні Капіевіч выдаў больш за 20 назоваў кніжак і брашураў новым шрыфтам.

У гэтых публікацыях Ільля Капіевіч выявіў сябе ня толькі як друкар, але й як вучоны й гуманісты ды пэдагог. Ён перакладаў знаныя замежныя творы ў беларускую мову, складаў слоўнікі, пісаў падручнікі, як „Буквары" й „Граматыкі", атлясы зь геаграфіі, падручнікі для навігацыі па морах. Ён пераклаў ды выдаў „Першую рускую" гісторыю ад біблійных часоў да канца Рымскае імпэрыі. Пераклаў ды выдаў „Байкі Эзопа".

У 1700 г. Ільля Капіевіч адкрыў у Амстэрдаме сваю собскую друкарню зь беларускім шрыфтам ды разыйшоўся з Тэсынгам. У сваёй друкарні Капіевіч выдаў колькі дапаможнікаў-падручнікаў з розных галінаў веды.

Каля 1705 г. Капіевіч перабраўся ў Гданск, каб на шырэйшую скалю разгарнуць выдавецкую справу навуковай літаратуры для патрэбаў усходніх Славянаў. Аднак Гданскі сэнат ня даў яму дазволу на адчыненьне гэткай друкарні. Тады Ільля Капіевіч выехаў у блізкае мястэчка Штахцэнбэрг да друкара Хрыстыяна Гольца ды там вёў далей сваю выдавецкую дзейнасьць у ягонай друкарні. Між іншых кніжак тут ён выдаў **лацінска-беларускую граматыку** зь бібліяграфічным паказьнікам сваіх ранейшых друкаў.

У леташнім 1969 годзе ў архіўным фоньдзе Аддзелу Польскай Акадэміі Навукаў у Гданску быў знойдзены адзін экзэмпляр Капіевічавай Граматыкі з датай 1705 году. Так у Граматыцы, як і ў ягоных арыгінальных і перакладных творах пераважае БЕЛАРУСКАЯ гутаркавая мова.

У 1709 г. Ільля Капіевіч з дазволу цара Пятра І-га езьдзіў у Маскву, каб там заснаваць друкарню зь беларускім шрыфтам, якім усьцяж цікавіўся цар. Аднак **у Маскве не далі дазволу** Капіевічу на адчыненьне друкарні. Так як гэта здарылася з ранейшымі нашымі друкарамі, што прабавалі там шчасьця — з Ф. Скарынам, зь Іванам Фёдаравічам разам зь Пятром Мсьціслаўцам, і Ільлю Капіевічу давялося хутка ўцякаць з Масквы зь вялікім рашчараваньнем. Масква ніколі ня верыла ніякаму Ліцьвіну-Беларусу, а тым больш зь вялікай зброяй — друкаваным словам.

Ільля Капіевіч тады вярнуўся ў Галяндыю, і там у Амстэрдаме памёр у 1711 годзе ў вялікай беднасьці.

Ягоная мадэрнізацыя кірылічнага шрыфту была, аднак, падхопленая МАСКАЛЯМІ, якія ўжо ў 1711 годзе ў Пецярбурзе пад наглядам самога цара Пятра І-га, із шрыфтам, атрыманым з Амстэрдаму, прадукцыі Капіевіча, урухомілі сваю „гражданска-кірылічную" друкарню.

Цікава адзначыць, што сучасныя пераймальнікі царскага імпэрыялізму — чырвоныя бальшавікі, **вельмі старэнна замятаюць** сьляды працы нашага выдатнага суродзіча Ільлі Капіевіча — рэфарматара важнае справы — мадэрнізацыі кірылічнага пісьма. Няма ягонага імя ў савецкай гістарычнай ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ найнавейшага выданьня (ад 1961 году, яшчэ не закончанай), няма ў вапошніх публікацыях зь гісторыі друку КІРЫЛІЦАЙ і ГРАЖДАНКАЙ. Навет у першым томе „Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" выданьня 1968 году Ільля Капіевіч фігуруе адзінадзіны раз адно ў бібліяграфічнай зносцы, дый то як асьветнік і аўтар граматыкі, а не як творца беларускага шрыфту. Уся справа ўвядзеньня беларускага шрыфту — гражданкі савецкай псэўданавукай мэтазгодна затуманеная, а галоўныя заслугі рэфармацыі кірылічнага шрыфту прыпісаныя цару Пятру І-му.

Ад пары Сталіна не загас ды, думаем, не загасьне, міт звышчалавецтва расейскага шавінізму, быццам усе вынаходніцтвы — твор расейскага народу. У сьвятле гэткага туману, ці-ж можа быць прадстаўленая й мадэрнізацыя кірылічнага пісьма расейскім нацызмам паза расейскімі дасягненьнямі? То-ж бо сонца ўсходзіць з Усходу!

У сёлетнім 1970 годзе прыпадаюць 270-ыя ўгодкі ад часу рэформы кірылічнага друку ІЛЬЛЁМ КАПІЕВІЧАМ. Дык заданьнем эміграцыі беларускага народу выдатна ды справядліва адзначыць гэтыя ўгодкі.

**Мікола Волаціч**

# ФРАНЬЦІШАК БАГУШЭВІЧ

### НА 130-ЫЯ ЎГОДКІ ЯГОНАГА НАРАДЖЭНЬНЯ Й 70-ЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ



22 сакавіка сёлета спаўняюцца 130-ыя ўгодкі ад нараджэньня, а 28 красавіка 70-ыя ўгодкі ад сьмерці Францішка Багушэвіча.

Паводля ролі й значаньня ў гісторыі Беларусі другой палавіны XIX стагодзьдзя Францішак Багушэвіч можа быць прыраўноўваны адно да Кастуся Каліноўскага, хоць дзейнасьць іхная шмат у чым насіла розны характар. Тое, што рабіў Кастусь Каліноўскі збройным змаганьнем і палымяным словам свае „Мужыцкае праўды", Францішак Багушэвіч, таксама ўдзельнік паўстаньня Кастуся Каліноўскага, працягваў і замацоўваў у народзе сваёй паэтычнай творчасьцяй.

Паэтычная дзейнасьць Францішка Багушэвіча, падобна як і паўстанская дзейнасьць Кастуся Каліноўскага, у навейшай гісторыі Беларусі адыграла эпахіяльную ролю. Багушэвічава літаратурная творчасьць вызначыла ідэйны кірунак беларускага нацыянальнага адраджэнскага руху ягонага часу. Больш таго, Багушэвічава літаратурная спадчына запладняла дзейнасьць беларускіх адраджэнццаў пачатку бягучага стагодзьдзя ды паказвала ідэйны шлях наступным пакаленьням. А некаторымі сваймі ідэйнымі аспэктамі Багушэвічава дзейнасьць ня страціла свае актуальнасьці й сяньня.

Да Францішка Багушэвіча фактычна йшчэ ня было наскрозь народнай і нацыянальнай беларускай літаратуры, у якой маглі б адбіцца ўва ўсёй паўніні й шырыні нацыянальныя й сацыяльныя ідэі беларускага народу, а была літаратура, пісаная беларускай мовай, што падрыхтавала глебу да выступленьня Францішка Багушэвіча. Да Багушэвіча былі пераважна творы пра беларускага селяніна, да якога прамаўлялі хоць і ягонай роднай мовай ды аднакроўныя зь ім нацыянальным паходжаньнем, усё-ж ідэйна чужыя гэтаму селяніну людзі. Затое Багушэвічавы творы былі ўжо галасам як-быццам самога народу, у якіх на ўсю моц прагучэлі народная крыўда, народныя думкі й імкненьні.

Багушэвіч першы ў беларускай літаратуры выступіў у вабароне людзкое годнасьці беларускага селяніна, на ўвесь голас запратэставаў супраць ягонае крыўды. Ён першы паставіў пытаньне ня толькі сацыяльнага вызваленьня й духовага разьняволеньня народу, але й ягонага адраджэньня нацыянальнага, як паўнавартаснае нацыі ў сям'і іншых народаў. Гістарычная роля Францішка Багушэвіча перш-наперш у тым, што на ягоную долю выпала стацца першым узапраўды народным і нацыянальным паэтам і духовым правадыром народу да таго часу, пакуль ня пераняў ад яго ў спадчыне гэтае ролі Янка Купала.

Бадайшто найважнейшым Багушэвічавым укладам у справу беларускага нацыянальнага адраджэньня было тое, што ён першы запачаткаваў, абгрунтаваў і сфармуляваў тэзу, што захаваньне народам ягонае роднае мовы раўназначнае зь існаваньнем народу, як апрычоне нацыі, а згубленьне роднае мовы раўназначнае з нацыянальнай сьмерцяй. Багушэвічаў кліч **„Беларусы, не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!"** — падхоплены й разьвіты паэтамі нашаніўцамі, перш-наперш Янкам Купалам, Алесем Гаруном, Алёйзай Пашкевічанкай — Цёткай і іншымі, стаўся галоўным дэвізам нашага нацыянальнага адраджэньня. Кліч гэты ня менш, чымся ў Багушэвічавы й пасьля ў нашаніўскія часы, войстра актуальны й сяньня, калі беларускія паэты й пісьменьнікі ў БССР часта змушаныя выступаць у сваіх творах у вабароне роднае мовы, загрожанае русыфікатарскай палітыкай Камуністычнай партыі. Пазьнейшая гісторыя пацьвердзіла, што ці не найважнейшая Багушэвічава гістарычная заслуга якраз у тым, што ў цэнтры сваёй нацыянальнай канцэпцыі паставіў ён ува ўсёй вайстрыні пытаньне захаваньня роднае мовы.

Творчасьць Францішка Багушэвіча дала першы штуршок для нацыянальнага ўсьведамленьня народных масаў. Да Багушэвіча нацыянальна сьведамай была адно невялічкая частка інтэлігенцыі, пераважна шляхоцкага паходжаньня, бо із сялянства, якому шлях да асьветы быў тады зачынены, не магла паўстаць свая інтэлігенцыя. Багушэвічавы зборнікі „Дудка беларуская" й „Смык беларускі" гэтак пашырыліся ў народных масах, што зьмешчаныя ў гэтых зборніках творы хутка сталіся як-быццам народнымі творамі. Творы ніводнага з пазьнейшых паэтаў, улучна з творамі Янкі Купалы й Якуба Коласа, ня сталіся нагэтулькі пашыранымі ў народзе, яму кроўна блізкімі й зразумелымі, як вершы Францішка Багушэвіча. Гэта затым, што Багушэвіч патрапіў прамовіць да селяніна ягоным собскім складам мовы, ягонымі паняцьцямі і ўяўленьнямі, умеў у мастацкіх вобразах адкрыць селяніну ягоную собскую душу.

Дзякуючы ўсяму гэтаму, адраджэнскія ідэі Багушэвіча траплялі на ўраджайную народную глебу. Вось гэтая Багушэвічава роля, як першага пашыральніка нацыянальнае сьведамасьці сярод народных масаў — гэта наступная гістарычная заслуга Францішка Багушэвіча.

І, наапошку, Багушэвічава паэзія ў ладнай ступені пабудзіла да літаратурнае дзейнасьці іншых паэтаў ягонае пары, як Альгерд Абуховіч, Адам Гурыновіч, зрабіла моцны ідэйны й мастацкі ўплыў на ўсю беларускую літаратуру канца XIX стагодзьдзя. Апрача гэтага, ягоная творчасьць як у ідэйнай, гэтак і ў літаратурна-мастацкай роўніцы запладняла й творы нашае паэзіі нашаніўскае пары, прынамся ейных першых гадоў.

У часы сталіншчыны Багушэвічава творчасьць, як і наагул нацыянальныя дасягненьні беларускае мінуўшчыны, бадайшто зусім не дасьледвалася й не папулярызавалася. І толькі ў 60-ых гадох пачаўся значны ўзрух у галіне пазнаньня й вывучэньня Багушэвічавае літаратурнае спадчыны. Зьявіліся каштоўныя дасьледваньні Генадзя Кісялёва, Івана Навуменкі й галоўна Сьцяпана Александровіча пра паасобныя мамэнты жыцьця й важнейшыя пытаньні паэтычнай і грамадзкай дзейнасьці Францішка Багушэвіча. Добрую справу зрабіла выдавецтва „Беларусь" выпусьціўшы ў 1967 годзе 12-цітысячным тыражом навукова зрыхтаваны Сьцяпанам Александровічам збор твораў Францішка Багушэвіча.

Нажаль, няма яшчэ грунтоўнага манаграфічнага апрацаваньня ўсяе літаратурнае спадчыны й грамадзкай ды публіцыстычнай дзейнасьці Багушэвіча, што моцна перашкаджае поўнаму пазнаньню ролі й значаньня Францішка Багушэвіча ды ягонага месца ў гісторыі нашага адраджэньня. Застаецца пажадаць, каб сёлетнія Багушэвічавы ўгодкі сталіся нагодай і стымулам для беларускіх літаратураведаў да зрыхтаваньня гэткай манаграфіі, калі, як і ў шмат якіх іншых карысных культурных пачынаньнях, ня стане на перашкодзе партыйная палітыка.

Роля Францішка Багушэвіча нагэтулькі вялікая ў гісторыі нашага нацыянальнага адраджэньня, а ягоная літаратурная спадчына нагэтулькі важная ў беларускім літаратурным працэсе, што не зважаючы на ніякія партыйныя перашкоды й забароны, яны будуць усьцяж служыць добрым прыкладам і жывой крыніцай духовае моцы для сучаснага й будучых пакаленьняў.

**Ст. Станкевіч**

# ФІЛЯРЭТУ РОДЗЬКУ 80 ГОД

27 студзеня сёлета споўнілася 80 год ад нараджэньня ведамага і ўсімі паважанага грамадзкага й царкоўнага беларускага дзеяча Філярэта Родзькі.

З гэтае нагоды, пішучы гэтыя радкі, я хацеў-бы хоць коратка нарысаваць профіль Паважанага Юбіляра для тых, хто яго бліжэй ня ведае, а тым самым і выказаць пашану да яго, на якую ён цалком заслужыў.

Паважаны Юбіляр нарадзіўся 27 студзеня ст. стылю (9 лютага паводля новага стылю) 1890 году ў Вераскаве на Наваградчыне. Здабыўшы прафэсійную настаўніцкую асьвету, ён адразу ўлучыўся ў справу ўзгадаваньня моладзі. Працу гэтую палюбіў ён усёй душой, але вось неўзабаве выбухнула Першая сусьветная вайна, і ён змушаны быў пайсьці змагацца за чужыя справы. Па вайне, ськінуўшы хоць і ахвіцэрскую, але чужую для яго форму, ён вяртаецца ўзноў да настаўніцкай дзейнасьці.

Пасьля польска-савецкае вайны й акупацыі Заходняе Беларусі Палякамі, яму даводзілася часта пераносіць розныя шыканы з боку тупалобых польскіх урадоўцаў. Не зважаючы на ўсё, ён стойка вытрываў на сваім становішчы аж да Другое сусьветнае вайны.

Апыніўшыся ў лягерах уцекачоў у Заходняй Нямеччыне, Філярэт Родзька ніколі ня ўхіляўся ад беларускіх грамадзкіх справаў, не зважаючы нат на тое, што на ягонай вылучнай апецы знаходзілася хворая жонка (дачка ўвесь час вучылася і не магла памагаць бацьком).

Вось ужо 20 зь лішнім год як Філярэт Родзька пражывае ў нашым асяродзьдзі і за ўвесь гэты час ня было бадайшто ніводнага грамадзкага пачынаньня, у якім ня прыймаў-бы ўдзелу Філярэт Родзька. Ён быў адным зь першых заснавальнікаў і першым старшынём Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў штаце Нью Джэрзі. На гэтае становішча ён неаднаразова перавыбіраўся. Ён заснавальнік і даўгагадовы настаўнік Беларускае Школы ў Нью Брансьвіку. Можна сьмела цьвердзіць, што беларускасьць і веданьне беларускае мовы ў ягоных былых узгадаванкаў, шмат якія із іх паканчылі ўжо вышэйшыя школы, заўдзячваюцца Філярэту Родзьку. Ад часу заснаваньня парахвіі БАПЦарквы ў Нью Брансьвіку, ён зьяўляецца нязьменным рэгентам царкоўнага хору. На розных грамадзкіх і царкоўных сходах, калі маладзейшыя часамі адмаўляюцца ад абавязкаў старшынства ці сакратарства на гэтых сходах, аднекваючыся сваёй „перапрацаванасьцяй", ён ахвотна прыймае кандыдатуру із шчырай усьмешкай і добрасумленна выконвае ўскладзеныя на яго абавязкі.

Трэба ўзапраўды дзівіцца з энэргіі й рухлівасьці гэтага чалавека. Вельмі часта можна спаткаць яго ў горадзе, калі ён бадзёрым крокам зусім не старога чалавека, але маладога хлопца, сьпяшаецца да аўтобусу ці палагоджвае розныя закупы.

Я веру, што ўсе бяз вынятку сябры нашага асяродзьдзя прылучацца да мяне й пажадаюць гэтаму Настаўніку, Чалавеку й Грамадзяніну яшчэ шмат год жыцьця й энэргіі ў ягонай працы.

Няхай-жа Ўсемагутны дазволіць нам вітаць Яго й Ягоную Спадарыню яшчэ на брыльлянтавыя ўгодкі жаніміства, як мы ад усяго сэрца віталі іх на залатыя — у мінулым годзе.

**В. С.**

**Заміж кветак на магілу Д-ру Міхасю Сокалу, дарагому Прыяцелю, Калегу й Суседу, ахвяроўваем на Выдавецкі Фонд „Беларуса" 35 даляраў.**

**Махначы, Гайдзелі й Чарнэцкія**

# „УЛАДАРКА БЕЛАРУСІ, ШТО СЬВЕЦІЦЬ У ЖЫРОВІЦАХ"

У дзесяці кілямэтрах ад Слоніму, на берагох рэчкі Вікні, што паблізу адсюль далучаецца да Шчары, здаўна красуецца слаўны Жыровіцкі манастыр. Для Беларусаў ён зьяўляецца гэткай-жа вялікай сьвятыняй, як для Расейцаў Траецка-Сергіява, а для Ўкраінцаў Кіева-Пячорская лаўры. На сёлета прыпадае 500-годзьдзе гэтага манастыру, што бяз сумлеву ня будзе ў БССР нічым адзначана, бо ён наўмысьля парыганы і навет невядома ці захаваўся ў ім цудадзейны абраз Жыровіцкай Богамаці, дзеля ўслаўленьня Якой манастыр і паўстаў.

Як Збавіцель чалавецтва Госпад Ісус Хрыстос нарадзіўся ў бедных ясьлях, гэтак і абраз Жыровіцкай Богамаці першымі пабачылі ў травені 1470-га году сьціплыя вясковыя пастушкі. На прыбранай у вясновы белы цьвет дзікай ігрушы, спад карэньня якой бегла крыніца, яны заўважылі ахутаны чароўным сьвятлом абраз Божае Маці з Сынам. Гаспадар бліжэйшага двара Жырава, маршалак Вялікага Княства Літоўскага Аляксандар Солтан пабожна паклаў яго да сваіх рэліквіяў, але, як сьцьвярджае народнае паданьне, назаўтра тыя-ж пастушкі прынесьлі да яго той-жа абраз, знойдзены імі на тэй-жа ігрушы. Тады, падпарадкуючыся волі самае Божае Маці, ён пабудаваў на месцы Ейнага зьяўленьня манастыр.

Мы ня ў стане пералічыць усе тыя цуды, якія здарыліся каля абразу Жыровіцкай Богамаці. Яго ўшаноўвалі і праваслаўныя, і каталікі, і вуніяты. Перад ім, адмыслова прыяжджаючы сюды, прасілі Божае Ласкі каралі — Ян Казімер, Ян 3-ці Сабескі, Аўгуст 2-гі Саксонскі, Аўгуст 3-ці Моцны, Уладыслаў 4-ты, Станіслаў Панятоўскі. Не аднойчы маліўся тут і знакаміты канцлер Леў Сапега, палац якога Ружаны знаходзіўся паблізу. Аднак пераважную бальшыню складалі тысячы малельнікаў у сьвітках, у лапцёх, з хатулямі за плячыма, што праз усё лета ішлі сюды з Палесься, Беласточчыны, Віленшчыны, ды навет больш далёкіх Віцебшчыны і Магілеўшчыны, каб папрасіць у Прачыстае Дзевы ратунку ад свае адвечнае крыўды.

На месцы драўлянай царквы, пабудаванай Аляксандрам Солтанам, будуецца ў 1613-м годзе велічны Ўсьпенскі сабор, які захаваўся дагэтуль. У ім знаходзіўся цудадзейны абраз, бо ўласьне тут у тагачаснай пушчы й расла тая ігруша, на якой ён абвесьціўся пастушком, а ў саборным скляпеньні была крыніца сьвятой вады, што цурчэла спад абранага Прачыстай Дзевай дрэва. Хто ведае, магчыма менавіта гэтую крыніцу меў на ўвазе, забаронены дагэтуль на Бацькаўшчыне, царскі катаржанін Алесь Гарун, калі пісаў:

У родным краі ёсьць крыніца<br>сьвятой вады,<br>Там толькі я змагу пазбыцца<br>сваёй нуды.

Здалёку відаць баракавы Ўсьпенскі сабор, прыгожы кумпал якога ўзвышаецца над зямлёй на 40 мэтраў. Хоць у канцы мінулага стагодзьдзя русыфікатары й зьнішчылі ягоныя прывабныя званіцы, але дагэтуль ён цешыць вока дасканальнасьцю сваіх прапорцыяў. У 1769-м годзе паблізу ад яго пабудавалі цэрквы — Яўленскую — на месцы камяню, дзе ў трэйці раз зьявіўся абраз, і Ўзьдзьвіжэнскую або Кальварыю. Абедзьве яны, як і Ўсьпенскі сабор, выдатныя архітэктурныя помнікі.

Дарма што вядомы навуковец У. Чантурыя сьпярша ў нарысе „Ансамбль Жыровіцкага манастыра", зьмешчаным у „Літаратуры і Мастацтве" ад 18-га кастрычніка 1968-га году, а потым у сваёй капітальнай манаграфіі „Гісторыя архітэктуры Беларусі" (Менск. 1969 году), і згадвае прачула пра архітэктурныя помнікі Жыровіцкага манастыра, але не знайшоў ён летась адбітку на старонках „Чырвонай зьмены" ў дыскусіі „Ахове помнікаў — сілу закону", а таму, магчыма, і ня трапіў у „Звод помнікаў, узятых пад ахову". Затое не абмінуў друк Жыровіцаў, як рэлігійнае сьвятыні беларускага народу, ды дамогся іхняга гвалтоўнага закрыцьця.

Яшчэ ў часапісе „Маладосьць" за лістапад 1954-га году, з нарысу Г. Шчарбатава „Вечарамі ў Жыровіцах", мы дазналіся пра гутарку старшыні тутэйшага сельсавету з камсамольцам:

„— Добра, што ты прыехаў, Косьця. Дапамажы нам тут — і старшыня паказаў на сабор.

— А што, дзейнічае? — запытаўся камсамолец

— Яшчэ як!"

Тады на дапамогу Косьцям ды наўсуперак шчырай веры іхніх бацькоў і дзядоў прыйшла газэта „Советская Белоруссия", якая 16-га жніўня 1959-га году друкуе фэльетон Кушнера „Чорная раса, чорная справа", прызначаны Жыровіцкім манахам, а ў сваім нумары ад 22-га жніўня 1962-га году артыкул „Набожная гніль", адрысаваны ягоным сэмінарыстым. Самыя загалоўкі цалком характарызуюць далейшы зьмест, але маючы на ўвазе сьвяты абраз ды жадаючы, мабыць, найбольш зьняважыць бездапаможных вернікаў, Кушнер дадае: „Як гаворыць расейская прымоўка, з аднаго дрэва — абраз і лапата".

І хай сабе бяз посьпеху, але паказальна, што менавіта з Жыровіцкага манастыра пісаў 20-га лютага 1968-га году Патрыярху Аляксею свой шырака вядомы на Захадзе ліст мужны япіскап Гермагэн, сасланы сюды за супраціў дзяржаўным упаўнаважаным па справах культу:

„Па шэрагу япархіяў ужо праканцыліся хвалі масавых закрыцьцяў цэркваў, бо законнасьць, забясьпечаная канстытуцыяй, падменьваецца „мэтазгоднасьцю", а то й проста „мяркаваньнем".

А паводля таксама вядомага ў вольным сьвеце „Звароту групы вернікаў СССР да Ўсходніх Патрыярхаў Праваслаўнай Царквы" яшчэ ў 1963-м годзе ўпаўнаважаныя спрабавалі забараніць у Жыровіцкім манастыры адпраўленьне Божае Службы і перашкодзілі прыёму новых сэмінарыстых. Такім прымусовым чынам быў урэшце-рэштаў зьнішчаны Жыровіцкі манастыр, як рэлігійная сьвятыня, а цяпер пад пагрозай разбурэньня апыніўся ён і як архітэктурны ансамбль.

Аднак як ніколі ня высахне Жыровіцкая сьвятая крыніца, гэтак ніколі ня зьнікне ў беларускіх сэрцах адбіты ў іх абраз Жыровіцкай Божай Маці. Калі тымчасам гэтае забаронена на Бацькаўшчыне, дык ейная эміграцыя сёлета ўрачыста адзначыць 500-ыя ўгодкі сьвятога абразу й узьніклага адначасна зь ім манастыру. Ня дарма із шматлікіх беларускіх цэркваў на чужыне дзьве набожна высьвячаныя ў імя абразу Жыровіцкай Богамаці. 20-га травеня ўва ўсіх іх адбудзецца Божая Служба, прысьвечаная абразу й ягонаму славутаму манастыру. У сваёй узвышанай малітве вернікі зьвернуцца да Жыровіцкай Богамаці, бо Яна-ж, як пяецца ў ёй, — Адзіная Чыстая і Звышбагаславеная Багародзіца Дзева Марыя, Уладарка Беларусі, што сьвеціць у Жыровіцах". А на адпаведных сходах, у сваіх народных дамох, яны прыгадаюць „Малітву да Жыровіцкае Божае Маці", створаную Натальляй Арсеньневай, у якой слаўная паэтка ад імя ўсяго народу зьвяртаецца да Яе з маленьнем:

. . . Вярні нам нівы нашы й хаты,<br>О, Матка Божай Беларусі!

**Юрка Віцьбіч**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА САВЕЦКАГА ДРУКУ

### КРЫТЫКА ФІЛЬМУ ПРА Ф. СКАРЫНУ

"У Доме кіно ў Менску быў паказаны фільм ,Я, Францыск Скарына' вытворчасьці кінастудыі ,Беларусьфільм' . . .

"Многія ўдзельнікі абмеркаваньня аналізавалі з пункту гледжаньня гістарычнай праўды, адпаведнасьці экраннага вобразу Скарыны, вобразу рэальнага беларускага першадрукара, вучонага, гуманістага і патрыёта-асьветніка . . .

"— Я разумею, што ствараўся фільм, у якім, дарэчы, ёсьць і выдумка і займальнасьць, — сказаў А. Мальдзіс. Мабыць бяз гэтага і нельга абыйсьціся. І калі-б гэта быў фільм не пра Скарыну, а пра чалавека тых часоў ці друкара ўвогуле, мы ня мелі-б асаблівых прэтэнзіяў да аўтараў. Але-ж яны стварылі фільм гістарычны. Фільм называецца „Я, Францыск Скарына". І гэта забавязвала аўтараў быць больш дакладнымі. У фільме чамусьці не названы год, калі Скарына пачынаў сваю вялікую справу, а мы-ж ведаем: гэта быў канкрэтны 1517 год. Перад пачаткам фільму рэжысэр Б. Сьцяпанаў сказаў, што здымачны калектыў імкнуўся правільна перадаць „праўду эпохі". Нажаль, гэтая праўда часам выглядае на экране даволі прыблізнай. Прычына, відаць, у драматургіі сцэнарыя. Чамусьці так здарылася, што аўтары фільму паказалі нам не скарынінскую эпоху, не эпоху Адраджэньня, а часы сярэднявечча або контррэфармацыі. Мы бачым, як інквізытары ўздыбліваюць прафэсара Глагоўскага, цкуюць Скарыну і Маргарыту. Яны паляць на вогнішчы скарынінскую „Біблію". Такое магло адбыцца на сто гадоў раней, у пачатку XV стагодзьдзя, або на 70 гадоў пазьней, у часы контррэфармацыі. Такія сцэны і абставіны нятыповыя для эпохі Адраджэньня. Вядома што і ў Скарынінскія часы ішла жорсткая барацьба паміж асьветнікамі і клерыкаламі, але яна прымала іншыя формы, чым гэта паказана ў фільме . . .

"Аспрэчвалі прамоўцы і трактоўку вобразу Скарыны. Гэта фільм аб такой зьяве ў беларускай культуры, якую ніяк нельга адарваць ад роднай глебы. Нажаль, Скарына ў фільме выглядае часам фанатыкам, а не перакананым чалавекам', — сказаў А. Саньнікаў.

"У фільме фактычна няма велічнай асобы беларускага першадрукара як вучонага-гуманістага і патрыёта-асьветніка, няма Беларусі першай паловы XVI стагодзьдзя, безь якой нельга сабе яго ўявіць", — вывад В. Чамярыцкага . . .

"Кнігавыдавецкая дзейнасьць Скарыны была вынікам грамадзкага разьвіцьця тагачаснай Беларусі. Скарына стаў першадрукарам таму, што гэтага вымагала эпоха. У фільме-ж справа, за якую ўзяўся Скарына, выглядае амаль выпадковай для яго . . .

"Гаварылася на абмеркаваньні і не аб зусім дакладным паказе ў фільме „Я, Францыск Скарына" прадстаўнікоў народу і сувязі Скарыны зь імі. Шмат заўвагаў выклікала сцэна патапленьня „вядзьмаркі" — адна зь нешматлікіх сцэн, дзе зьяўляюцца простыя людзі. На думку С. Міско, А. Мальдзіса, А. Красінскага й іншых, аб'ектыўна гэтая сцэна набывае абагульняючы сэнс. Народ у ёй паказаны жорсткім і тупым . . .

"Асноўныя папрокі да фільму былі выкліканыя яго драматургіяй. Як сказаў Б. Сьцяпанаў, сам сцэнарны матар'ял патрабаваў гіганцкага пераадоленьня. Драматургія была настолькі няцікавай і прымітыўнай, што прыходзілася зь ёю змагацца і ў часе пастаноўкі фільму". („Літаратура і мастацтва", 13. 2. 70).

### „ХОЧУЦЬ ВЕДАЦЬ ГІСТОРЫЮ РОДНАГА КРАЮ"

"У першы дзень вучобы будучыя гісторыкі — студэнты Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту накіроўваюцца ў музэй. Далёка хадзіць ня трэба. Музэй тут-жа, побач з аўдыторыямі . . .

"— Бадай нідзе няма столькі скарбаў, як на Беларусі. Мы проста ходзім па іх. Навуцы ўжо вядома больш за тысячу беларускіх скарбаў — расказвае кандыдат гістарычных навук В. Рабцэвіч. — Беларусь знаходзіцца на вялікай дарозе. Каго тут толькі ня было! . . .

"Багаты ў музэі аддзел беларускай этнаграфіі. З усёй рэспублікі карпатліва сабраныя хатнія рэчы, прадметы побыту — красамоўныя сьветкі матар'яльнай культуры Беларусаў . . .

"Шмат цікавых экспанатаў у гэтым аддзеле, і іх можа быць намнога болей. Нажаль, у ўнівэрсытэце пагаворваюць аб тым, каб закрыць аддзел беларускай этнаграфіі. А дарэмна. Ці трэба ставіць крыж на тым, у што ўкладзена столькі працы? Наадварот, унівэрсытэт мог-бы на базе гэтага аддзелу адкрыць спэцыяльны этнаграфічны музэй — такога ў Беларусі пакуль што няма.

"Гісторыка - археалягічны музэй мае ўжо амаль паўвекавую гісторыю . . .

"Ён патрэбны ня толькі будучым гісторыкам, а й будучым фізыкам, матэматыкам, філялёгам і юрыстым. Студэнтам усіх факультэтаў, школьнікам, якія прыяжджаюць сюды на экскурсіі з усёй Беларусі. Яны хочуць ведаць пра ўсё, што было да іх, хочуць ведаць гісторыю роднага краю, каб мацней яго любіць і шанаваць". („Літаратура і мастацтва", 24. 2. 70).

### „ГЭРОІ САВЕЦКАГА САЮЗУ" ПАВОДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ

"Шматнацыянальная савецкая армія (у часе Другое сусьветнае вайны) стала арміяй масавага гераізму. Сярод узнагароджаных франтавікоў — прадстаўнікі звыш 100 нацыянальнасьцяў. Званьня Героя Савецкага Саюзу былі ўдастоеныя 7.998 Расейцаў, 2.021 Украінец, 299 Беларусаў, 161 Татарын, 107 Яўрэяў, (г. зн. Жыдоў — рэд. „Бел."), 96 Казахаў, 90 Грузінаў, 89 Армян, 67 Узбекаў, 63 Мардвіны, 45 Чувашоў, 44 Азербайджанцы, 38 Башкіраў, 31 Асяцін, 16 Туркмэнаў, 15 Літоўцаў, 15 Таджыкаў, 12 Кіргізаў, 12 Латышоў, 10 Комі, 10 Удмуртаў, 9 Эстонцаў, 8 Карэлаў, 8 Калмыкоў, 6 Адыгейцаў, 6 Кабардзінаў, 4 Абхазцы, 2 Малдаваніны, 2 Якуты, 1 Тувінец і прадстаўнікі многіх іншых нацыянальнасьцяў". („Полымя", 1970, № 1, б. 157).

# БЕЛАРУСКІЯ СТРАВЫ

На такую тэму дала Марыя Ванюк-Фэраро 13 лютага 11-ай клясе аднэй із сярэдніх канадыйскіх школ Таронта лекцыю.

Марыя Ванюк-Фэраро, студэнтка Настаўніцкага Каледжу пры Унівэрсытэце Таронта, сяброўка Задзіночаньня Беларускіх Жанчынаў Канады. Гэткую тэму яна выбрала й атрымала на яе апрабату свайго прафэсара для прадмету эканомікі, які ў праграме 11-ае клясы сярэдняе школы абыймае й навучаньне замежных традыцыяў, звычаяў, і страваў.

Як фон для свае тэмы — „Беларускія стравы" — Марыя В.-Ф. разумела, што павінна даць сваім вучням абраз Беларусі, яе прыроды, народу зь ягонай духовай і матар'яльнай культурай. Каб за кароткую лекцыю абраз гэты выпаў як магапаўнейшы й зырчэйшы, Марыя падабрала ладную колькасьць характэрнага нагляднага й слухавога матар'ялу. Перад лекцыяй яна разлажыла экспанаты, у прыемным для вока выглядзе, у клясе для агляданьня вучням. Тут была карта Беларусі, прадметы народнага ткацкага й вышывальнага мастацтва, як ваўняная тканая ўзорам на кроснах Палесься (бацькаўшчына бацькоў Марыі) дзяружка, ручнікі, вышыўкі, слуцкія й іншыя беларускія паясы, шкатулка аплеценая ўзорам з саломы й кнігі: альбомы „Белавеская Пушча", „Нарач", „Менск" і альбом народных узораў, тканінаў і вопраткі. Выстаўку ачольваў абраз Вострабрамскай Маці Божай, ахінуты тканым бел-чырвона-белымі льнянымі ніткамі ручніком.

Ад гэтага абраза Марыя й пачала сваю гутарку, што беларускі народ рэлігійны й вакол рэлігійных сьвятаў вякамі разьвіваліся ў яго багатая духовая культура — традыцыі, звычаі, рытуалы, песьні, танцы, бяседы, а зь імі й стравы. І так іншаю, прыкладам, ёсьць посная вячэра на Куцьцю, іншаю — багатая перад Новым Годам, іншым разгаўленьне на Вялікдзень, памінкі на Дзяды, страва на Сорак Сьвятых. Найбольшую ўвагу Марыя В-Ф. прысьвяціла вячэры на Куцьцю зь яе слаўнымі дванаццацьма поснымі стравамі.

Тады маладая настаўніца паясьніла экспанаты, зьвярнула ўвагу на факт, што Беларусь прадукуе шмат лёну, што ваўняныя ручныя вырабы з воўны мясцовых авечак адзначаюцца трываласьцяй у ўжытку й сваёй красе.

Характар страваваньня народу залежыць ад прыроды й геаграфічных асаблівасьцяў краіны. Каб пазнаёміць вучняў з прыродай Беларусі й тыпамі яе народу, настаўніца згасіла сьвятло, завяла даўгагральную кружэлку зь беларускімі песьнямі ў выкананьні хораў Рыгора Шырмы й Генадзя Цітовіча, а на экран кідала, пры дапамозе „опэк" пражэктара, адзін за другім колерныя вобразы нетраў Белавескае пушчы зь яе адвечнымі дубамі, магутнымі зубрамі, белымі й чорнымі буслямі, з разнаякім зьвярыным, птушыным і расьлінным сьветам, царства грыбоў з баравікамі, сыраежкамі й рыжкамі. Марыя расказвала пра прыгожых, але здрадлівых мухамораў, дмухняных, калі высушаных беларускай жанчынай, баравікоў—прысмаку, безь якога не абыйдзецца грыбковы квасок на Куцьцю. Расказвала пра ягады: чарніцы, брушніцы й п'яныя, як багуньнік, лахачы (дурніцы).

З пушчы, усё пад мэлёдыю беларускай песьні, Марыя перанесла ўвагу слухачоў на берагі апетай М. Танкам, часамі дрымучай, часамі бунтарнай, але заўсёды прыгожай, Нарачы. Паказала нарачанскіх рыбакоў зь сецямі, поўнымі ўловаў, вясёлых дзяцей, ды ў народных касьцюмах выконваючую беларускія скокі моладзь. Далей на экране закрасавалі залацістыя слуцкія паясы, багатыя ўзоры дзяружак, ручнікоў ды народнай вопраткі. Здымкі вуліц, будынін ды індустрыі сучаснага Менску — сталіцы Беларусі, як паясьняла настаўніца — далі вучням уяўленьне, што Беларусь краіна ня толькі пушчаў, рэк і вазёраў, але й „магутных замкаў, слаўных гарадоў!".

„Падарожжам па Беларусі" вучні былі захопленыя, хацелі ведаць дакладней, дзе знаходзіцца гэтая „бютыфул" краіна, ці яна пад савецкім рэжымам. Калі запалілася сьвятло й заціхла песьня, настаўніца перайшла да тэорыі варэньня пасобных беларускіх страваў. Зацікаўленыя вучні рабілі нататкі й дапытваліся правідловага „спэлінгу" падаваных у беларускай вымове назоваў страваў.

Як кажуць, з дакладу карыстае перадусім дакладчык, бо да яго рыхтуецца. Гэтак і тут, Марыя Ванюк, замужам Фэраро, радзілася на эміграцыі й Беларусі ніколі ня бачыла, але з маладым энтузіязмам слухала сьпярша сама расказаў пра бацькаўшчыну сваіх продкаў, іхнюю гісторыю славы, заняпаду й адраджэньня ды імкненьня да палітычнай сувэрэннасьці. Слухала расказаў, як дапаможніка да самастойных студыяў літаратуры аб Беларусі ў ангельскай мове.

Мы вітаем Марыю Ванюк-Фэраро зь яе ўдалым дакладам, жадаем ёй пасьпяхова закончыць у гэтым годзе настаўніцкі каледж ды прадаўжаць распачатыя студыі зь беларусаведы.

Р. Ж-Г.

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце часапіс Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

**Генадзь Бураўкін**

***

Я над аджылым ня дрыжу —
Чаго за мёртвае чапляцца?
А даўніною даражу,
Ня сыплю, як пясок, скрозь пальцы.

Ня шкода песень і хвалы,
Хаця зямля на іх скупая.
Для Полацку, што купалы
У сонцы ранішнім купае.

І над будзённасьцю муры,
Што мы наставілі пасьпешна,
Маўчаць нясьвіскія муры
І ў неба мкне Белая Вежа . . .

Стаю каля сівой красы,
Хаджу па гулкіх сутарэньнях —
І чую продкаў галасы,
І бачу нашых дзён карэньні.

І ў тым, што немач не скарыла
Наш край, няма ніякіх дзіў,
Бо тут калісьці жыў Скарына
І Каліноўскі ў бой хадзіў . . .

(„Маладосьць", № 5, 1969)

***

Кажуць мне, што я другім раблюся—
Прыхаваў іронію і гнеў,
Пазьбягаю маладых дыскусій,
Пасаліднеў і палагаднеў.

Нават пахітрэў па ўласнай волі,
Не зьвяртаю ўвагі на брыду,
І калі хто гаўкне з завугольля,
Усьміхнуся і далей іду . . .

Як усё і проста і лягічна!
Што там голаў раздумам дурыць,
Калі можна зь лёгкасьцю прывычнай
Ярлыком чарговым адарыць!

Я спрачацца з „судзьдзямі" ня буду.
Толькі аб адным іх папрашу:
Дужа не сьпяшайцеся з прысудам,
Зазірніце і сабе ў душу.

Можа, хопіць сьмеласьці даўмецца,
Што ня толькі я адзін — другі,
Што жыцьцё ня топчацца на месцы
Ды і вы даўно ўжо не багі . . .

(„Літаратура і Мастацтва" 6 лютага 1970).

**Генадзь Бураўкін** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Скончыў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт і працуе карэспандэнтам „Праўды" па Беларусі. Выдаў зборнікі: „Майская просінь", „Зь любоўю і нянавісьцю зямною" і „Дыханьне".

**МІХАСЬ ВЫШЫНСКІ**

# ХАТА ПАД ЛІПАЙ

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

Спачатку была кухня: шкапчык, на лаве керагаз, у закуце — бульба, а на другі бок гэтага нейкія посьцілкі — яны вісьлі глухой сьценкай ад столі да падлогі. Цёмная цішыня. Нібы ўжо вечар за акном. За пераборкай зноў цішыня, і Мароз там сумеўся: у хаце, мусіць, нікога ня было. Ён таптаўся, чуючы, здаецца, аднаго сябе. Пара ад дыханьня пагусьцела — паціху расплывалася перад ім. Як зімой у мароз, калі няма ветру й чыстае неба. Перастыла хата. Але холаду Мароз адразу не адчуў, дзе тут: толькі што з двара, нагрэўся. Трэба было выходзіць. Ён выцягнуў з ботаў рукавіцы й сьцепануўся, зьнячэўку пачуўшы стук. Зь печы скочыў кот. Сонна паякаўшы, усеўся сярод хаты. І тады на печы адхінулася занавесь — з-за коміна выткнуўся твар, сухлявы й вострый. Ні сполаху, ні зьдзіўленьня, як чакаў, ня згледзеў на ім. Была адно спакойная ўвага й цікаўнасьць, а пасьля — вясёлая жвавасьць.

— Вой-ка, Францавіч . . . Добрага здароўя, добрага . . . Гэткі госьць, а я тут лежачы ня бачу, — заварушылася старая. — Пэўна-ж па малако прыйшлі? . . Помню, пыталі яксьці раз . . .

Яму зноў стала не па сабе: ад неспадзяванай чалавечай дабраты, а больш ад думкі: адкуль яна ведае яго? І калі ён пытаўся пра тое малако?

Цётка спаўзла зь печы. Была яна ў кажуху і бітых валёнках . . . „Няўжо так і спала на печы?" — утаропіўся Мароз на яе. І схамянуўся:

— Не, якое тут малако . . . Я вот...

— Мароз ня мог адолець у душы нечаканага й незразумелага цяжару, — цётка Вусьця, што гэта? Мне сказалі: вы парэзалі наш бярэзьнік. Навошта? Лес-жа вот . . .

Старая зьнярухомела ля палка — так і не пасьпела прыбраць яго. Кот пашыўся за печ.

— А-а, вунь што . . . убачылі . . .

Мароз міжволі аглянуўся, як-бы шукаючы яшчэ каго ў хаце: такім чужым пачуўся голас кабеты. І сама яна ўбачылася нейкай новай: натапыраная, губы ў злосьці падцятыя, твар здраньцьвелы, нібы абмарожаны.

Мароз быў адступіўся да дзьвярэй, пасьля згледзеў табурэт пад акном — сеў. „Тут нешта ня тое . . . І гэтая Валя . . . . Што яна хацела сказаць?"

— Убачылі, кажу, нарэшце . . . А што ля хлеву ў мяне гола, ні паленца дроў, ня бачылі? А што ў хаце тут, як у лядоўні, — рук не разгорнеш — ня ведалі? Я во на печы нават у кажуху днюю — начую. . . Старая, нездароўчая, будучы адна аднэй — дзе мне таго апалу дамагчыся? Лес пад бокам кажаце . . . — ого! бачыць вока ды дастаць далёка. Хто мне яго насячэ? Каго найму? Ніхто ня хоча ні клопату, ні грошай. Раней бывала хоць Аньцілеўскі, пастух, гадзіўся. . . — памагаў. А як пакалечыла яго, п'янага, машына, як перабраўся ён у Рудню да сына, то ўсё: няма да каго кінуцца ўжо . . .

Старая вось-вось заплача. Ды, мусіць, злосьць стрымлівала сьлёзы. Была яна падобная на чалавека, самотнага й адзінокага, якога ў дарозе застала непагадзь: навокала яго белая завірушная глуш, і ногі загрузаюць у сьнезе. Дарогі канца ня відаць — ён яе даўно згубіў. Ня ведаючы, што рабіць, чалавек стаў, згорбіўшыся й задыхаючыся ад ветру. У смутку яго — туга, адчай і злосьць.

Мароз, здаецца, цяпер зразумеў дзіўнае маўчаньне важатай. Яна-ж ведала Вусьцю і, вядома, жыцьцё яе. Яна ўсё ведала ў вёсцы: ня першы год робіць у гэтым Завешане. Яна — ня ён.

— Яно то так, цётка . . . Але . . . але можна было схадзіць да каго, сказаць што і як . . . — Мароз ня ведаў ужо, што й гаварыць.

— Ай, Францавіч, Францавіч. . . Як пагляджу — маладзён вы яшчэ... Думаеце не хадзіла і не гаварыла? Уга, аж абрыдзела . . . Старшыня, як усягды, адхінаецца: чым, кажа, памагу я? Сам-жа не паеду! Наймайце каго . . . Грошы, пэнсію, маеце: і за сына, і па старасьці . . . Убачыў у мяне ўжо грошы гэткія . . . Цяпер дырэктар ваш . . . Гэты па-свойму сьпявае. Суцяшае ўсё: э-э, такой бяды, цётка Усьціньня, — вот арганізуем нашых цімураўцаў і ўсё табе будзе... І так ужо, пустабрэх, другі год іх арганізоўвае, дасылае ўсё. А сам вунь зь цімураўцамі тымі ўвесьта двор свой дрыўмі загламазьдзіў... І ў думках яго ня было мяне, калі ганяў у лес трактар... Часам падумаю: то-ж некалі з сынам маім у партызанах быў. Забыўся пра ўсё . . . Хто падумаў-ба . . .

З хаты Мароз выйшаў, як зьвязаны. У роздуме стаяў на вуліцы, курыў. „Схаджу заўтра да старшыні. Пагаворым". — Зганяючы дымную намарач, урэшце павесялеў ён. І заруліўся дадому.

Мароз ужо ўзяўся быў адчыняць весьнікі ў свой двор, калі раптам адумаўся: заўтра-ж нядзеля, і старшыню ў канторы ён не застане. Мароз зноў пабрыў вуліцай. Адкласьці клопат на панядзелак ён ужо ня мог і не хацеў. У вачох усё стаяла жанчына, сумная, злая, ссутуленая, з застылым, нібы абмарожаным тварам. Гулі, не аціхаючы, яе словы, і Мароз незаўважна прысьпешыў крок.

Калгаснае праўленьне было на другой вуліцы, у самым яе канцы, у клюбе . . . Дзе мост над канавай і магазын. Мароз гэта ведаў. Ведаў і старшыню: штонядзелі сутыкаўся зь ім. Пра зглумленыя прысады Марозу як-бы ўжо ня думалася.

Ён сьпяшаўся між двароў, дрэў, галасоў, быў бязуважны да ўсяго пад такім няпрыветным у гэты дзень восеньскім небам і думаў пра Дарашэвіча, старшыню, і непакоіўся за размову зь ім. Што яму той скажа? А штосьці далёкае й нявыразнае, штосьці вострае, як боль, ажывала, разрасталася ў душы. Потым ня было клопату аб Дарашэвічу, ня было ні вуліцы, ні галасоў — была родная хата з далёкіх год, зіма.

Захутаўшыся ў лахманы, ён з братам ляжыць на печы, слухае, як за сьцяной вые мяцеліца. Аж хата ад яе дрыжыць. Холадна й страшна. У нізе на хаце маці шчапае дошкі з плоту. Шчокі, рот у яе закураныя, у сажы. На іх яна нават не паглядае — злуе, божкае, нешта гаворыць сама з сабой. А яны ляжаць ціхенька, як стаіўшыся. Нібы яны вінаватыя, што зь відна да цямна гарыць у печы, а ў хаце ўсё роўна холад; што на двары трэйці дзень, як кажа маці, шалеюць чэрці, і ў іх выйшлі дровы. Вось ужо за плот узяліся.

А потым было сонца і быў лес — усё з тых-жа далёкіх год. Яны нарэзалі аж цэлыя санечкі сыромлі: асінка, бярозка з пня. Упрогшыся, цягнулі жардзё прасекай на дарогу. Крышку пройдуць і стануць: сьнег такі сыпкі, незьляжалы, зьверху ледзь [illegible] — грузнуць санкі ў ім. Калі выцягнулі дровы на дарогу, — пападалі на прасецы, ляжалі й елі сьнег. Скрозь сьлёзы зьзяла дзіўнае зімовае сонца, у заінелым

# КЛЮБ „САКАВІК” — УРАЧЫСТА АДЧЫНЕНЫ



**Лёрд Мэер Ньюбэй, Лейды Мэарэс і Шэф Паліцыі Амблер, праводжаныя сп. А. Калько і сп. Я. Калбасом, пакідаюць урачыстасьць адчыненьня Беларускага Грамадзкага Дому й Клюбу „Сакавік”**

Беларускі Граамдзкі Клюб „Сакавік” у Брадфардзе (Ангельшчына) афіцыйнай дэкляарцыяй Лёрда Мэра гораду Брадфард Алдэрмана Эдварда Ньюбэй адчынены а 2-ой гадзіне папаўдні ў сыботу 17 студзеня сёлета.

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗКАГА ДОМУ

У сыботу 20 сьнежня мінулага году Беларусы Брадфарду й аколіцаў сабраліся ў свой собскі новакуплены й адпаведна пераўладжаны для грамадзкага ўжытку Беларускі Дом. На гэты ўрачысты дзень быў запрошаны настаяцель БАПЦарквы ў Вялікабрытаніі а. Янка Абабурка, каб высьвяціў будынак паводля праваслаўнага абраду й беларускага звычаю.

Пасьля малебену ў кароткай казані а. Янка зазначыў між іншага, што „добрая праца тут відавочная, якой павінны цешыцца, не зважаючы на тое, хто й колькі да яе прылажыўся, бо галоўнае цяпер перад намі — дагледзець, каб дабро засталося і ўжылося на патрэбы беларускія. Дык памажы нам, Божа!” — закончыў сваю прыгожую казань а. Янка.

Роўна а 12-ай гадзіне таго-ж дня быў фармальна адчынены ў Беларускім Грамадзкім Доме Бар „Крыніца” сп. МэкБрэды, прадстаўніком Дырэкцыі Браварні „Тэтлэй”, што забясьпечвае напіткамі Клюб „Сакавік”.

Сп. Аляксандар Калько — старшыня Управы Клюбу „Сакавік” запрасіў сп. МэкБрэды наліць першага „пайнта” з мадэрных помпаў у Бары „Крыніца” ды, падняўшы тост за паўстаньне Клюбу „Сакавік”, пажадаў яму й наагул Беларусам Брадфарду найлепшых посьпехаў і новых дасягненьняў у будучыні.

У нядзелю 21 сьнежня адбылася супольная нарада з удзелам сяброў Управы Аддзелу ЗБВБ і Управы Клюбу ды дэлегата сакратара Галоўнае Управы ЗБВБ зь Лёндану Янкі Міхалюка, на якой абмяркоўвалася пытаньне афіцыйнага адчыненьня Беларускага Грамадзкага Дому й Клюбу „Сакавік” Лёрдам Мэерам. Старшыня Брадфардзкага Аддзелу ЗБВБ сп. Янка Калбаса паінфармаваў, што ён зрабіў візыту ў Сіты Гол, дзе афіцыйна запрасіў Лёрда Мэера, які згадзіўся выканаць урачыстасьць адчыненьня Клюбу 17 студзеня сёлета.

## РЭХА АНГЕЛЬСКАЕ ПРЭСЫ

У панядзелак 22 сьнежня сп. Янка Міхалюк і сп. Янка Калбаса мелі спатканьне з карэспандэнтам мясцовае газэты „Тэлеграф энд Аргус”, які цікавіўся дадзенымі пра Беларусь, Беларусаў у Ангельшчыне ды Беларусамі Брадфарду й іхнымі арганізацыямі. На аснове гэтых інфармацыяў шырака пісалася ў згаданай газэце за 12 студзеня, а таксама былі зьмешчаныя фотаздымкі Бару „Крыніца” і залі „Лявоніха”. У артыкуле выясьнялася, што абазначаюць паангельску „Сакавік”, „Крыніца” й „Лявоніха”. Прыкладам, пра „Сакавік” пісалася, што гэта ня толькі месяц пачатку вясны ў прыродзе, але й пачатак нацыянальнай вясны, бо ў гэтым месяцы ў 1918 годзе была абвешчаная Вольная й Незалежная Беларусь.

„Сакавік” — Беларускі Клюб у Брадфардзе з касмапалітанскім выглядам” — пад гэткім загалоўкам зьмясціў 15 студзеня артыкул агульнаангельскі часапіс „Морнінг Адвэртайзэр”, што выходзіць у Лёндане. Пры артыкуле была зьмешчаная фотаздымка Бару „Крыніца” з наведвальнікамі.

## УРАЧЫСТАЕ АДЧЫНЕНЬНЕ КЛЮБУ

Сыбота 17 студзеня на доўга застанецца ў памяці шматлікіх Беларусаў Ангельшчыны, асабліва сяброў ЗБВБ і Клюбу „Сакавік”. Ужо ў пятніцу вечарам прыехала на ўрачыстасьць дэлегацыя зь Лёндану ў складзе: старшыні Галоўнае Управы ЗБВБ Паўла Навары із жонкаю, старшыні Англа-Беларускага Таварыства Обэрона Гэрбэрта, сакратара гэтага Таварыства Г. Пікарды, скарбніка Галоўнай Управы ЗБВБ П. Асіповіча, прадстаўніка Сэктару Рады БНР А. Лашука.

Старшыня Аддзелу ЗБВБ Янка Калбаса й старшыня Клюбу „Сакавік” А. Калько спаткалі Лёрда Мэера з жонкаю пры ўходзе ў залю „Лявоніха”, прадставілі ім паважаных гасьцей ды беларускіх грамадзкіх, рэлігійных і палітычных прадстаўнікоў. У залі „Лявоніха” сп. Я. Калбаса прывітаў Лёрда Мэера, які, забіраючы слова, падзякаваў за запросіны. Ён сказаў: „Цешуся з Вашых высілкаў, цешуся з Вашае народнае традыцыі, цешуся з таго, што, пасяліўшыся ў Брадфардзе, Вы знайшлі тут гасьцінны прытулак, зь якога разумна карыстаецеся... Хай Ваш новы будынак, у якім Вы распачалі вельмі карысную справу, будзе для нас усіх прыемнасьцяй. Усім Вам жадаю найлепшых посьпехаў”.

Сп. Я. Калбаса папрасіў Лёрда Мэера адчыніць Беларускі Грамадзкі Клюб „Сакавік” афіцыйна, што ён і выканаў, разразаючы йстужку пры ўваходзе ў Бар „Крыніца” ды абвяшчаючы: „Клюб „Сакавік” афіцыйна адчынены!”



**Настаяцель БАПЦ у Вялікабрытаніі а. Янка Абабурка і сп. Янка Калбаса з прадстаўнікамі іншанацыянальных групаў (Эстонец, Чэх, Паляк, Аўстраліец) на прыняцьці ў Бары „Крыніца”**

## Ш А М П А Н С К А Е

Дзеля адзначаньня важнае падзеі для Беларусаў у Ангельшчыне ды ў гонар гасьцей далейшая частка ўрачыстасьці пачалася із шампанскага. Бар „Крыніца” быў гэтак перапоўнены, што давялося павыносіць усе мэблі, каб памясьціць усіх прысутных. Тут-жа пад вясёлы настрой пачаліся прамовы: перш-наперш старшыні Англа-Беларускага Таварыства Обэрона Гэрбэрта й старшыні Галоўнае Управы ЗБВБ Паўла Навары. Абодвы выказалі задаваленьне з выкананае працы ў Клюбе, падчыркнулі нязломную трывалкасьць у грамадзкай працы сяброў ЗБВБ ды выказалі асаблівую падзяку старшыні Аддзелу ЗБВБ Янку Калбасу, які, як зазначыў П. Навара, „зьяўляецца фактычным заснавальнікам Беларускага Клюбу „Сакавік” і наагул няўтомным грамадзкім працаўніком, галоўна як старшыня Брадфардзкага Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі”.

Букэт жывых кветак для Лейды Мэарэс уручылі наймалодшыя з прысутных Юльляна Калбаса й Мікола Навара. Сп. Янка Калбаса ад імя ЗБВБ уручыў Лёрду Мэеру сярэбраную чашу, на якой выпісаны быў адпаведны тэкст. „Гэтую каштоўную рэч, якую я атрымаў з рук старшыні Аддзелу ЗБВБ, я захаваю сярод калекцыі памяткавых сярэбраных рэчаў у Сыты Гол у Брадфардзе на ўвесь час”, — дзякуючы за яе, зазначыў Лёрд Мэер Ньюбэй.

## ПРЫСУНЫЯ ГОСЬЦІ Й ДЭЛЕГАТЫ:

Сябра Парляманту Бэн Форд, Шэф паліцыі Брадфарду з жонкаю Г. Амблер, сябры Брадфардзкага самаўраду Я. Скот, Л. Р. Гаммэр, В. Татэрсал, Рэктар Беларускай Каталіцкай Місіі ў Вялікабрытаніі а. арх. Леў Гарошка, Настаяцель БАПЦ у Вялікабрытаніі а. Янка Абабурка, Сакратар Галоўнай Управы ЗБВБ Янка Міхалюк з жонкаю, Старшыня Аддзелу ЗБВБ у Лёндане Янка Сяўковіч, Старшыня Аддзелу ЗБВБ у Манчэстары Хведар Кажаневіч з жонкаю, Старшыня Аддзелу ЗБВБ у Бірмінгам Міхась Ёўлеў, Сакратар Беларускага Клюбу ў Манчэстары Міхась Яськевіч, Старшыні Латыскай, Літоўскай, Эстонскай і Украінскай арганізацыяў у Брадфардзе, Архітэктар Д. Шэлдан і Адвакат Я. Аляксандар ды шмат іншых.

## ТЭЛЕГРАМЫ Й ПРЫВІТАЛЬНЫЯ ЛІСТЫ

Ад Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў ЗША, Штату Іліной, Уладыкі Часлава Сіповіча, Беларускага Клюбу „Пагоня” ў Канадзе, а. Віктара Войтанкі, а. Аляксандра Надсана, Сябры Парляманту Джорджа Краддок, Старшыні Украінскай Нацыянальнай Рады ў Лёндане, Старшыні Украінскага Інфармацыйнага Аддзелу, Прафэсара Т. Дынглей і інш.

## БАГАСЛУЖБА Й ПРЫНЯЦЬЦЁ

Назаўтрае ў нядзелю 18 студзеня а. Янка Абабурка адслужыў Багаслужбу, на якой прысутнічала вялікая колькасьць гасьцей зь Лёндану, Манчэстару, Бірмінгаму ды іншых мясцовасьцяў.

За сталом пры супольным абедзе, што падрыхтавалі сп-ства Лемяшонкі, прысутныя дзяліліся думкамі і ўражаньнямі з прабегу ўрачыстага адчыненьня Клюбу „Сакавік”. Як вычувалася з гутарак паасобных сяброў, урачыстае адчыненьне Клюбу „Сакавік” для шмат каго сталася нацыянальнай падзеяй, што натхніла шмат каго да працы й ахвярнасьці для нацыянальнае справы. „Гэтая падзея застанецца ў гісторыі беларускае эміграцыі ў Ангельшчыне”, — сказаў старшыня Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ Я. Сяўковіч, які калісьці жыў у Брадфардзе.

## П А Д З Я К А

Наапошку ніяк нельга абмінуць прозьвішчаў прыхільных сяброў, што працавалі пры заснаваньні і ўладжаньні Клюбу „Сакавік” бязь ніякае аплаты, шчыра стараючыся як найлепш выканаць узятыя на сябе забавязаньні.

Перш-наперш трэба падчыркнуць вялікую заслугу сп. Хведара Лемяшонка, які, апрача таго, што зьяўляецца найстарэйшым сябрам Аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе, заўсёды ахвотна й шчыра бярэ на сябе ды сумленна выконвае грамадзкія абавязкі. Будучы адміністратарам Беларускага Дому даўжэйшы час, ён выконвае найцяжэйшыя абавязкі — займаецца чысткай, рамонтамі, лякатарствам і кнігаводзтвам. Да гэтага даходзяць арганізаваньні прыняцьцяў, у чым яму выдатна памагаюць жонка Марыя й дочкі Ганна з Дарусяй. Сп. Хведар Лемяшонак, апрача адміністратарства Дому, выконвае абавязкі скарбніка Управы Рады БАПЦ, Клюбу „Сакавік” і Парахвіі БАПЦ у Брадфардзе. За ўсё гэта яму належыцца найвялікшая падзяка.

Сп. Міхась Віценчык, што прыняў абавязкі „бармана”, працу, якую выконваў раней у Мачэстарскім Беларускім Клюбе, сп. Аляксандар Калько, які, будучы старшынём Клюбу „Сакавік”, нясе адказнасьць за парадак у Клюбе, сп. Аўген Мучынскі, які кажнае сыботы й нядзелі прыяжджае із суседняга гораду Лідс, каб працаваць пры Клюбе, ды сп. Б. Кляйноў — старшыня Управы Рады БАПЦ і сябра Управы Клюбу, які шмат шчырай увагі аддае справе Клюбу. Усім ім дый шмат іншым, няўспомненым тут, што спрычыніліся да заснаваньня Клюбу й ягонай дзейнасьці, належыцца вялікая й шчырая падзяка.

**Янка Крушына**

## БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ

ветліва просім выпісваць „Беларуса” й высылаць падпіску ды ахвяры на газэту на адрыс нашага Адміністратара на Канаду:

Mr. A. MARKIEVICH
127 Dovercourt Road
Toronto 3, Ont.

---

гольлі стыла незямная, такая высокая сінь . . . Яны тады гэта ўбачылі, здаецца, першы раз за зіму і замерлі. А сьнег быў чамусьці салёны — мо ад поту й сьлёз. Было горка. І радасна: яны ўсё-такі вывалаклі на цьвёрдае санкі. А пасьля быў страх і адчай. Аднекуль паявіўся лясьнік, злы, вяртлявы дзядзька із стрэльбай і сабакам. І дзядзька і сабака аж хакалі ад хады — так, мусіць, сьпяшаліся. З лаянкай, з крыкам кінуўся лясьнік да іх. Яны шуснулі ў ельнік, у сьнег, і ўжо адтуль, із схованкі, глядзелі, дрыжучы, як лясьнік раськідваў іх дровы . . . О, каб быў у іх зь імі бацька! Ня тое было-б . . . А так — хто заступіцца? Лясьнік забраў усё: і санкі, і сякеру, і пілу. А яны пасьля да вечара туляліся па вёсцы, баючыся паказацца на вочы маці . . . Яна, праўда, тады на іх не сварылася . . .

Як война, трывожна й чуйна чуў ён тады сваё і матчына жыцьцё! А вось — адышлі гады, і нібы забыўся пра ўсё

***

— Куды, Францавіч, размахаліся?

Мароз смыкнуў плячыма, падняў вочы. На дарогу ўперадзе выйшаў з лугавой сьцежкі Лукашонак. Ён быў суседам яму, гэты таўсматы, заўсёды чырванашчокі й вясёлы чалавек.

— Ды туды . . . — Мароз нехаця прытрымаў крок.

Лукашонак зірнуў на яго — так сабе зірнуў: коратка, бегла, як глядзяць знаёмыя людзі, каторыя бачацца штодня. І чагось насьцеражыўся, затрымаў на ім позірк.

— Нейкія вы . . . Пэўна-ж, зноў хтосьці насаліў вам? Ужо-ж, гэткія вучні цяперака . . .

— А . . . Слухайце, вы ня ведаеце часам Вусьці, што . . .

— Пытаеце бо — ведаю, чаму-ж... А што?

— Ды так . . . Цяжка, бач, чалавеку.

— Уга, удава і гады на зыходзе. . Я старога яе ведаў. Шчырай натуры быў чалавек. Галаву меў, знаеце, — ня тое, што ў некаторых . . . А во памёр нейк па-дурному — гэта перад вайной яшчэ. Павёз быў у раён вяпрука на продаж, зімой, у самыя маразы. Прадаць-то прадаў, а сябе не зьбярог. Прыходзіць пад ноч конь, іржэ бедалака, а ён у санях мёртвы, аж жудасна, знаеце . . . Урачы пасьля казалі, што выпіў празь меру і нібы замёрз у сьне, нібы задыхнуўся. А мужчына, скажу вам, быў-быка мог аблажыць. І каб-жа піў асобенна, а вось-ка . . . Цяперака сын — то-ж пагіб: у блякаду, разам з маім — былі яны, лічы, што адных год. Э, ці адна ў нас Вусьця з такой бядой? А Шышліха, а Кульшыха . . . Розна жывуць людзі, у кожнага сваё: во ў Мялешкі — ведаеце таго, што на паплавох? — хрэсьбіны сягоньня, радасьць: ня было, ня было дзяцей — і на-це — жонка зразу двойню прывяла. Я цяперака во тапчуся туды з паўлітэркам — мы-ж такая-сякая радня. Да-а, розна жывуць людзі. Во Качаніха. Учора апоўначы мужыка ў бальніцу адправіла. Даўно чалавек яе хварэў, мучыўся жыватом, а тут як схапіла . . . Да-а . . . Ну, бывайце сабе, мне — туды.

Лукашонак сышоў з мосту і пабрыў поплавам. Мароз перадыхнуў: праўленьне было побач.

Старшыню прыйшлося пачакаць: там, за другімі дзьвярыма, была нарада брыгадзіраў. А тут, у пакоі з прыходу, шчоўкала на лічыльніках бухгальтарка, нізенькая, не па гадох раздабрэлая чарнушка; нешта пісала, перамаўляючыся праз стол з чарнявай, эканамістка — упобачкі з уёмістай сваёй суседкай яна выдавала вельмі-ж худой і рослай. Абое як-бы не зважалі на яго; але па іх віду й позірках спадцішка, па гаворцы чулася, што яны адно й гадаюць: чаго ён тут? Па-сапраўднаму абыякавы да ўсяго быў мужчына ў ватоўцы, няголены, няпэўных год, што засярэджана і нейк сонна курыў у закутку.

А за прыадчыненымі ў кабінэт дзьвярыма ўсё гаманілі. Мароз пазнаваў голас старшыні — прыглушаны, роўны, мяккі. Калі сьхіляўся ў крэсьле, бачыў і самога Дарашэвіча: ёмкага ў плячах, спакойнага, цьмянага з твару мужчыну. Перад ім ляжала папера, але ён ня пісаў: стукаў алоўкам па стале, ківаў галавой. Мароз падумаў, што такі нехапатлівы, моцны ў касьці і сын у яго — той, што зь дзевятае клясы.

А потым гаворка пацішэла: выходзілі брыгадзіры . . .

Мароз загаварыў адразу, з парогу. Дарашэвіч быў падняўся, пасьля сеў: пазнаў яго. Мароз гаварыў, а старшыня, адыйшоўшы ад кароткага зьдзіўленьня, пазіраў яму кудысь пад ногі — усё той-жа да абыякавасьці спакойны. Можна было падумаць, што ён і ня чуе яго: заклапочаны ўсім сваім, калгасным.

За дзьвярыма спынілі стукаць косточкамі — замерлі там балаболкі

— О, што яно. А я сьпярша падумаў, мо што з сынам маім, — уськінуў вочы Дарашэвіч і павесялеў. — Паслухайце . . . гэта, Францавіч, чаго так кіпець, гарачку пароць? Кіньце вы — ды бу-удуць у яе тыя дровы! Возьме каня, заплаціць каму за лясную работу, — і будзь здароў на двары сярод дроў. — Дарашэвіч засьмяяўся:

— Яна-ж, ваша Усьціньня, і пэнсіянэрка, і гаспадыня тым часам на сотках — можа чым заплаціць!

— Я-ж кажу, каго яна нойме? І потым, колькі ў яе тэй пэнсіі . . .

— Ну, добра, добра, — скоранька загаварыў старшыня і нечакана пільна й насьцярожліва, як ліс з нары, зіркнуў на яго, — быццам на чужога.

— А ведаеце, Францавіч, няпроста ўсё гэта. Тут, мілы, прабле-ема . . . Я ўжо даўно абмазгоўваю яе. Такіх састарэлых, як Мялешка, удоў у нас хапае. І ўсе цяпер штодня ходзяць сюды. Нават ты за іх, і добра зрабіў: а то пазаселі вы там у школе. Але што-ж рабіць? Яксьці іх, пэнсіянэраў, трэба абслужыць. Мо тады, калі развозім паліва для цагельні, кузьні, фэрмы? Ну, добра, будзем думаць . . . Зробім нешта.

Старшыня стамлёна пацёр вочы. У позірку, у голасе яго была ціхасьць, дабрата і, здаецца, шчырасьць.

— Курыце, во, Францавіч . . . І лепш раскажыце, як там хлопцы мае вучацца — даўно хачу папытаць . . .

. . . Калі Мароз сыходзіў з клюбнага ганку, падумаў:

„Нешта мудруе, круціць ён . . . Адгаворкі ўсё гэта, мусіць. Абяцанкі-цацанкі. А мо й папраўдзе што выйдзе зь яго задумкі?—усё стаяла ў галаве.—Але зноў-жа: пакуль надумае пэўна што — сьнег упадзе . . . Зрэшты, нічога, — засупакоіў сябе ён. — Як будзем развозіць па настаўніцкіх дварох паліва, не абыдзем і хаты старой”. Але ўзрушэньне ня сунімалася. Было яно цяпер нейкім новым і незразумелым.

Ён сыходзіў з узгорку да мосту, калі нечага сьціха спыніўся і як упяршыню ўбачыў вёску: дрэвы й стрэхі, стрэхі . . . Вунь і Вусьціна ліпа. Падумаў, што забіты школьнымі клопатамі, ён жыў як не на зямлі.

Праз новую трывогу яму адкрываўся сьвет іншага, незнаёмага жыцьця — таго, што пад стрэхамі.

(„Полымя”, № 8, 1963)

**Міхась Вышынскі**

